PL ISSN 0546 - 1960
NR INDEKSU 366714

# Ніва

БЕЛАРУСКІ ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНЫ ТЫДНЁВІК

№ 27 (1834) ГОД XXXVI БЕЛАСТОК 7 ЛІПЕНЯ 1991 Г. ЦАНА 1000 ЗЛ.



За „круглым сталом" ( Рэпартаж аб дыскусіі на тэму беларускай дыяспары чытайце на стар.4 ).

****************************************************************

## КАШМАР, АД ЯКОГА НЕ ПРАЧНУСЯ

*Фронт прайшоў праз Беласточчыну летам 44-га, адкаціўся на захад. Па гарачых слядах Чырвонай Арміі прыйшла новая ўлада, прыйшлі на Беласточчыну АКоўцы... Не прыйшоў пажаданы спакой і мір. Лілася кроў, гарэлі вёскі, у жудасным 45-м, 46-м... Яшчэ нядаўна называлі той перыяд змаганнем за ўмацаванне народнай улады - часам класавай барацьбы. Загінуўшым у змаганні героям пераможнага боку паставілі помнікі, напісалі пра іх кніжкі, называлі іхнімі імёнамі вуліцы, школы... Пасля 45 гадоў кола гісторыі закруцілася ў другі бок, і героямі сталі ворагі папярэдніх герояў, а час той назвалі змаганнем за вольную і непадлеглую Польшчу... Паявіліся новыя помнікі, кніжкі, імёны вуліц і школ...*

*Нехта сказаў: айчына там, дзе народ і магілы ягоных герояў.*

*У 45-м і 46-м на Беласточчыне гарэлі беларускія вёскі, лілася беларуская кроў. Мой народ у тым змаганні не стаў ні пераможцам ні пераможаным. Ён, што й казаць, не мае шанцаў займець герояў тае пары. Яму засталіся на памяць магілы ахвяраў у не-айчыннай зямлі.*

*Пра адну такую магілу апавядае гэты тэкст. Паслухайце.*

**Васіль Якубюк:** Рок 46-ты, 18 красавіка банда прыйшла грабіць нашу вёску, Стацэвічы. Мой брат якраз быў выйшаў з дому, яго схапілі на вуліцы. Павязеш нас, кажуць. Брат кажа не, моў, я вас не ведаю. І кінуўся ўцякаць. Засеклі яго з аўтаматаў на месцы. Яму ішоў пятнаццаты год. Мінуў тыдзень, і яны паявіліся надвячоркам зноў. Заходзіць адзін у хату. Кантынгент здадзены? пытае. Тады войска ездзіла па вёсках за кантынгентамі. Але я бачу: нейкі ён не той, не з таго войска. У кажушку, адзін пісталет за халяваю, другі за паскам. На што чакаеце? Выводзьце каня! Вывялі мы каня, татуль кажа: я павязу. Ну, стары, добра, кажа той. Мама кліча мяне: хадзі на вячэру. Іду я да хаты, але бачу на вуліцы - едуць, вязуць паршукі, мяшкі, кучу іншага дабра на фурах. І двух нашых з вёскі паганяе, Плісюк Іван і Садоўскі Афанасій. Пераляканыя, самі не свае. Ага, думаю, такая справа. Толькі я паспеў увайсці дахаты, як убягае другі: Рукі ўгору! Бачу, знаёмы. Быў у міліцыі, потым пайшоў у банду, а з банды, скурвысына, забралі на службу да УБ. Альбін яго называлі, а напраўду - Адальф Нівінскі, з Нівіна Старога, тры вярсты ад Стацэвіч. Са "шляхты". Выводзь маладую кабылу, кажа мне. Ведаў, што маем. Я выйшаў, налажыў абротку і вывеў кабылу. Ён узяў павадок і кажа - вон, вам тут не месца, а ў Расіі. А матуля кажа: бацьку, вазьмі дакументы. А татуль кажа: ужо дакументыаднаму душу вынялі, то й мне вымуць. Мне дакументы непатрэбны. А такі адзін сярун, з Філіп, з хутара, зайшоў у хату і пазбіраў тое, што папала пад руку - нагавіцы, гарнітур, палатно, і панёс на фурманку. Бацька выехаў і ўжо не вярнуўся...

Цяпер што? Таго самага року, канец кастрычніка, я быў у Бельску. Ажно спатыкае мяне адзін знаёмы і паказвае - глядзі, бандыт ідзе! Бачу - ён, Адальф Нівінскі. А з ім УБоўцы. Я падбягаю і крычу: ах ты такі-сякі бандыт, дзе майго бацьку паклаў? А УБоўцы мяне пад рукі і заводзяць да каменданта. Калі яшчэ раз гэтае паўторыцца, кажа іхні камендант, дастанеш пяць год, а калі яго хоць кранеш - табе пятнаццаць. Я й не стаў пытацца, дзе мой бацька ляжыць.

Аказваецца, Нівінскага УБ узяло пры нападзе на Яцэвічы, прыпомнілі сабе, што быў у міліцыі, і ўзялі на службу, як такога сабаку, што мае выстаўляць ім бандытаў. Потым ён служыў у Беластоку, на Юравецкай. Памёр прошлага року... Прайшло 45 гадоў, а я й не ведаў, дзе ляжыць мой бацька, Язэп Якубюк, у якой магіле.

**Сцяпан Плісюк:** Так, я быў дома, як бралі майго бацьку, Івана Плісюка. Мала што, а я й сам галавою налажыў бы. Бацька пайшоў запрагаць коні, а той бандыт застаўся ў хаце і давай перапатрасаць куфэркі, забірае адзенне. Я кажу: пане, пакінь мне хоць адны нагавіцы.

( Працяг на стар.6 )





### Гледзячы збоку

Падзеі, сведкамі якіх мы ў Польшчы, і весткі, што плывуць з Бацькаўшчыны, не могуць не трывожыць. Беларусь перастала ўжо абазначаць толькі геаграфічнае паняцце, як гэта ацанялі несвядомыя яе фактычнага значэння ў гісторыі і свеце, ці аж надта свядомыя ўмыснага ўздзейвання на памяншэнне, а то й на знішчэнне ролі, якую павінна сыграць гэтая Краіна і Яе Народ сярод іншых вольных народаў славянскай часткі Еўропы. Вось чаму й павялічваецца прага інфармацыі пра справы беларускія, а асабліва пажаданне вестак аб аб'яднанні сіл авангардных кругоў у галіне палітыкі ці культуры, якія б супольна патрывожыліся, як мабілізавацца дзеля выкарыстання таго гістарычнага моманту, у якім нам давялося жыць.

Не кранаючы вялікай палітыкі, гляньма на адбіццё нашага тут асяроддзя ў люстры даступнай прэсавай інфармацыі, а перш за ўсё тыднёвіка "Ніва", які ў сучасных умовах здолеў падняць папярочку свайго ўзроўню, не абмяжоўваючы нічыіх думак ці поглядаў. Да голасу даходзяць штораз часцей людзі маладыя, выказваючы свае больш ці менш канструктыўныя думкі.

У авангардзе маладых кадраў хутка апынуўся Янка Максімюк, што дзякуючы шырокім ведам, інтэлігенцыі і здольнасцям пераказу, апрача таго - заангажаванню ў грамадскай працы Галоўнага праўлення БГКТ, а пасля ў рэдакцыі "Нівы", стаў асобай публічнай, ад якой, зразумела, больш вымагаецца, чым ад звычайнага смяротнага. Публікацыі яго наогул цікавыя, рэфлексійныя, словам, разбуджаюць думкі і выклікаюць пачуццё пашаны да аўтара.

Артыкул яго "Мой апошні пленум" у "Ніве" з 21 красавіка 1991 г. /што даплёўся да мяне са спазненнем/ гэта нешта зусім не прыпамінаючае зраўнаважанага, эўфемістычнага ў прынцыпе Янкі Максімюка. Памінаючы пакуль што змест тэксту, непераборлівая /мякка кажучы/ яго форма з'яўляецца, на маю думку, запярэчаннем асабовасці аўтара, што можа хутчэй выклікаць заўвагу "contradictio in adiecto", чым у адносінах Янкі да выдуманага працаўніка ў заканчэнні артыкула. Асмельваюся сказаць "выдуманага", бо як бы пільна не пераглядзець публікацыі Аляксандра Баршчэўскага, нельга знайсці ў іх варожай ці нават канфліктовай паставы ў адносінах да Янкі Максімюка. Дык не дзіва, што аўтар на самым пачатку прызнаецца да пачуцця прыкрасці, дасведчанай тэкстам яго артыкула. Чытачу паказваецца ён таксама прыкры, але не асноўнае ў эмацыянальных адчуццях. Справа ў тым, што замест кансалідацыі грамадскіх сіл беларускай меншасці ў Польшчы, артыкул Я. Максімюка паказвае нешта зусім адваротнае і гэта трывожыць ды

( Працяг на стар.2 )




( Працяг са стар.1 )

расчароўвае. Янка Максімюк угледзеў у Пленуме БГКТ з 17 сакавіка 1991 г. магчымасць атакі на БГКТ / у якім сам з'яўляецца членам кіраўніцтва/, а галоўным чынам, на старшыню арганізацыі Аляксандра Баршчэўскага, не ашчаджаючы пры нагодзе і членаў пленума, што "увесь час гаварылі... І гаварылі... Ажно да знямогі і адурэння". Далей: "калі ўжо сябры ГП спаласкалі сабе мазгі.." і т.д. /Сам ён браў голас каля 10 разоў /"Ніва" н-р 19, стар. 7/, але ў артыкуле не знайшоў месца, каб ацаніць сябе як члена ГП/. Асноўная наводка - на Аляксандра Баршчэўскага. Не думаю, каб прычынай атакі былі асабістыя крыўды ці толькі пачуццё антыпатыі. Калі так, то астаецца матыў грамадскі ці палітычны. Мне таксама А. Баршчэўскі ні брат ні сват і не думаю дабівацца мянушкі "advocatus diaboli", ці прыпісваць сабе прывілею безумоўнай слушнасці. Пастараймася тады на меру магчымасцей разважыць змест упамянутай публікацыі і выцякаючыя з яе непасрэдна ці ўкосна высновы.

Занепад працы БГКТ аж надта відавочны. Здаецца аднак, што не без вядомага намеру стараецца Я. Максімюк спляціць праблему гэтага занепаду, прыпісваючы некампетэнтнасць А. Баршчэўскаму як старшыні. Труізмам было б тут паўтараць вылічанку дасягненняў БГКТ для беларускай меншасці, яе культуры ў нялёгкіх як-ніяк умовах мінулага, у якім доўгія гады кіраваў гэтай арганізацыяй А. Баршчэўскі.

Палітычныя перамены, калі ўжо, як гэта акрэсліў аўтар публікацыі, "беззваротна ляснуў камунізм у Польшчы", актывізавалі ворагаў беларускага руху, якія не замарудзілі развярнуць атаку на яго, выкарыстоўваючы падлегласць БГКТ Міністэрству ўнутраных спраў /быццам было гэта залежна ад якой-небудзь беларускай арганізацыі!/, атаясамліваючы гэтую залежнасць з паняццем калабарацыянізму. Не дзіўлюся хлуснці шавіністычна схільных праціўнікаў беларушчыны. Разумею таксама неабходнасць пошукаў новых формаў дзеяння беларускіх арганізацыяў у Польшчы. Ці для дасягнення гэтай мэты, аднак, трэба і можна нішчыць дасягнутае з немалым трудом на працягу дзесяцігоддзяў? Ці "польскія" беларусы настолькі моцныя, што хопіць ім сродкаў і сілы знішчыць, замест удасканаліць, існуючыя структуры і пабудаваць новыя? Пакуль што з поспехам рэалізуецца першая ўмова - знішчэння. Факт, што БГКТ і яе дзеячы, якія атакуюцца ў прэсе і ў карэспандэнцыі з уладамі, не маюць шанцаў развіцця ў сучасных абставінах /"Ніва"з 17.02.91 г., стар. 2/. Мянуючы сябе паступовымі, члены Пленума ці нават Прэзідыума БГКТ, замест праявіць ініцыятыву ў напрамку выпрацавання сучасных формаў дзеяння і пабудовы новых структураў на існуючай грамадскай глебе, пакінулі дасюляшнюю арганізацыю БГКТ, каб прыняць у адносінах да яе паставу, якую нельга назваць прыхільнаю. Не было б трагедыі, каб ім удалося пабудаваць нешта больш дасканалае, аб'ядноўваючае грамадства, ці выпрацаваць нейкі іншы аўтарытэт.

Праўда, нельга недаацэньваць Беларускае аб'яднанне студэнтаў, але гэта зусім іншая справа і асобная тэма. Была надзея на створаную ў 1989 г. палітычную арганізацыю, што назвала сябе "Беларускім дэмакратычным аб'яднаннем". Практыка паказала зусім іншае. Партыя здолела аб'яднаць у нейкім

( Працяг на стар.4 )




## АД ПАЧУЦЦЯ СОРАМУ ДА ПАЧУЦЦЯ ГОНАРУ

- 46 -

Пад час дыскусіі за круглым сталом у Мінску з нагоды Міжнароднага кангрэсу беларусістаў прадстаўнік беларускай эміграцыі ў ЗША Янка Запруднік закрануў пытанне: хто ёсць, а хто не ёсць эмігрантам сярод тых беларусаў, якія сёння жывуць у Амерыцы. Запруднік пытаў:"Ці мая дачка і тысячы іншых дзяцей, якія нарадзіліся ў эміграцыйных сем'ях, з'яўляюцца эмігрантамі ці не?" Мне здаецца, што пытанне мела толькі рытарычны характар. Думаю, што хто як хто, але інтэлектуал тыпу Янкі Запрудніка дасканала ведае, што ён з'яўляецца эмігрантам, а яго дачка ні ў якім выпадку не эмігрантка. Яна карэнная амерыканка. І я ўпэўнены, што тысячы дзяцей, народжаных у Амерыцы, Англіі, Канадзе, Аўстраліі ў беларускіх эміграцыйных сем'ях, лічаць сябе не эмігрантамі, а карэннымі жыхарамі тых краін, у якіх яны жывуць. І трэба сказаць, што маюць на гэта поўнае маральнае і фармальнае права. Для маладога пакалення амерыканцаў беларускага паходжання Амерыка, а не Беларусь з'яўляецца Айчынай. А вынікае гэта ўсё з таго, што яно нарадзілася ў Амерыцы. І я ўпэўнены, што ніхто з прадстаўнікоў гэтага пакалення не пазволіць, каб яго трактавалі як эмігранта. Трэба памятаць аб тым, што пазіцыя эмігранта, нават у такой дэмакратычнай краіне, як Амерыка, звязана з цэлым радам праваых ці пазаправавых, звычаёвых абмежаванняў і нявыгад, што з'яўляецца дадатковай прычынай, з-за якой усе хацелі б мець статус карэнных, а не эміграцыйных жыхароў.

Нядаўна я сустрэўся са сваім старым знаёмым з ЗША, у якога я жыў на працягу некалькіх дзён. Яго малыя дочкі дасканала размаўлялі па-беларуску. Сёння старэйшай дачцэ 14 гадоў і, як сказаў знаёмы, яна ўзбунтавалася супраць беларускай мовы і дэманстрацыйна не хоча паслугоўвацца ёю.

Ці ж гэтая дзяўчына захоча, каб трактавалі яе як эмігрантку? У ніякім выпадку! А я ж ведаю, што бацькі гэтай дзяўчынкі нічога не занядбалі і выкарысталі ўсе шанцы для таго, каб іх дзіця мела беларускую свядомасць і каб дасканала валодала беларускай мовай. Аднак, трэба памятаць аб тым, што ў такой сітуацыі дзейнічаюць на амерыканскае дзіця беларускага паходжання дзве няроўныя і як бы супрацьстаўныя сілы. З аднаго боку, дзейнічае параўнаўча невялікая сіла бацькоў, а з другога боку, таталітарная сіла дзяржаўнай рэчаіснасці, у якой змяшчаецца і школа, і радыё з тэлебачаннем, і прэса, і сябры, і вуліца. Зразумела, што бацькі дасягаюць пэўныя эфекты так доўга, як доўга дзіця ў малое. Калі дзіця знаходзіцца галоўным чынам дома, тады сіла ўплыву бацькоў вельмі вялікая. Калі, аднак, дзіця ідзе ў школу, знаходзіць сяброў, чытае прэсу і кнігі, адным словам, калі акунаецца ў кіпучае амерыканскае жыццё, сіла бацькоўскага ўплыву радыкальна малее. Аднак, ёсць і высакародныя выключэнні. Напэўна многія чытачы памятаюць выступленні ў Польшчы танцавальнага калектыву з Амерыкі "Васілёк", члены якога, а ўсе яны маладыя людзі, паслугоўваюцца беларускай мовай. Сіла іх бацькоў аказалася большай, чым сіла ўздзеяння ўсёй амерыканскай рэчаіснасці. Але трэба сказаць, што дзеці большасці беларускіх эмігрантаў ужо не паслугоўваюцца беларускай мовай. Часта нават даходзіць да вострага канфлікту паміж бацькамі і дзецьмі, якія перастаюць разумець бацькоўскія патрыятычныя пачуцці. Аднак, сказанае не азначае, што разам з абыякавасцю дзяцей прападзе назаўсёды беларускасць. Справа ў тым, што многія з дзяцей, якія ўзбунтаваліся ва ўзросце 14 -15 гадоў, апаматаюцца, калі ім будзе 25 ці 40 гадоў. Гэта не значыць, што стануць яны паслядоўнымі беларусамі, але значыць, што будуць да беларушчыны адносіцца з сімпатыяй і са спачуваннем. Калі, аднак, так не станецца, дык і так яшчэ справа не належыць да прапаўшых. Справа ў тым, што вельмі часта не дзеці, а ўнукі вяртаюцца да ідэй, пачуццяў дзядоў, у тым ліку да пачуццяў патрыятычных. І ўсё ж такі перспектыва захавання беларушчыны ў Амерыцы, ці ў Англіі, ці ў Канадзе невялікая. Раней ці пазней беларуская мова ў гэтых краінах памрэ. Ці з гэтага вынікае, што беларуская эміграцыя перастане на Захадзе існаваць? Не перастане! Якраз сёння мае яна магчымасці існавання намнога большыя, чым на працягу апошніх дзесяцігоддзяў. Справа ў тым, што як усходняя Беласточчына, так і Беларусь трапляюць у доўгатрывалы крызіс. Крызіс выкліча высокую хвалю эміграцыі маладых людзей. І калі толькі Захад прыадкрые заслоны, дык вялікая колькасць беларусаў апынецца на Захадзе, што будзе гарантам існавання вялікіх беларускіх абшчын, якія горда будуць трымаць штандар беларускага гонару.

**Алесь Барскі**

****************************************




Прэзідэнт Лех Валэнса падпісаў выбарчае палажэнне ў Сенат. Прадбачвае яно выбар ста сенатараў у выбарчых акругах, якія будуць супадаць з тэрыторыямі ваяводстваў. Прэзідэнт не адобрыў выбарчае палажэнне ў Сейм і накіраваў яго назад у Сейм РП з мэтай паўторна разгледзець прэзідэнцкія і сенацкія папраўкі наконт спосабу галасавання.

У Фарным касцёле ў Беластоку адбыўся інгрэс начальніка каталіцкай дыяцэзіі - біскупа Эдварда Кіселя. 5 чэрвеня 1991 г. папа Ян Павел II аб'явіў аб стварэнні Беластоцкай дыяцэзіі і яе галавою назначыў біскупа Э. Кісела.

У Палацы Браніцкіх у Беластоку адбылося дзесятае пасяджэнне Самаўрадавага сейміка, прысвечанае пытанням культуры і асветы ў ваяводстве. Была таксама створана камісія па справах сельскай гаспадаркі.

Таварыства супрацоўніцтва народаў Усходняй Еўропы "Прыбліжэнне" зарэгістравана 19 чэрвеня ў Варшаве. Адна з мэт Таварыства - фармаванне польскай і міжнароднай грамадскай думкі наконт польска-літоўскіх, польска-беларускіх, польска-украінскіх, польска-латышскіх і польска-эстонскіх зносін у мінулым і зараз.

Клініка інфекцыйных хвароб у Беластоку-Дайлідах атрымала ад лекарскага таварыства з Руэн /Францыя/ 6 тысяч таблетак для наркаманаў, хварэючых на СНІД.

## Заява

**У сувязі са звесткамі аб намераным утварэнні ў Беластоку Кансулята Беларускай ССР пацвярджаем сваю пазіцыю нязгоды на гэты дыпламатычны акт, які ў святле міжнароднага права будзе пярэчыць палітычным перспектывам беларускага насельніцтва на Беласточчыне.**

**Адначасна сцвярджаем, што беларуская консульская пляцоўка ў Польшчы павінна, на нашу думку, адчыніць у Беластоку Гаспадарчую місію дзеля развіцця гандлю і шырокага эканамічнага супрацоўніцтва рэгіёна з Беларускай Рэспублікай. Лічым, што разам з Гаспадарчай місіяй магла б дзейнічаць консульская дэлегатура для аператыўнай абслугі білятэральных патрэбаў.**

**Галоўная рада**
**Беларускага дэмакратычнага аб'яднання**
**Беласток,1991 - 05 - 15.**

## Паважаныя чытачы!

Трапляе ў вашы рукі нумар "Нівы", форма якога крыху адрозніваецца ад папярэдніх. Як інфармавалі мы раней, Беларускае грамадска-культурнае таварыства ў канцы мінулага года атрымала ад Міністэрства культуры і мастацтва датацыю на арганізаванне паліграфічнай базы. За гэтыя грошы было куплена абсталяванне для камп'ютэрнага набору газеты. Гэта дазволіць нам частку друкарскага працэсу выконваць у рэдакцыі і тым самым панізіць кошт выдавання тыднёвіка. А кошты паслуг, у тым ліку і паліграфічных, узрастаюць далей. З гэтай прычыны вымушаны мы таксама павысіць цану аднаго экземпляра газеты з 800 зл. на 1000 зл. і адмовіцца друкаваць каляровыя старонкі. Маем надзею, што камп'ютэрная тэхніка дазволіць на больш выразны друк і лепшую якасць публікаваных здымкаў, што ў значнай ступені павінна кампенсаваць чытачам уведзеныя намі змены.

Лічым на вашую спагаду і зразуменне.

**Рэдакцыя**




**Нас не большае - аб беларусах у Аўстраліі расказвае Міхась Лужынскі з Сіднея ✻ Іване, ты жывеш - аб вяртанні праху І.Луцкевіча ў Вільню ✻ У „Прысутнасці " - чаканне „Басовішча" ✻ Як рыхтуюцца настаўнікі рэлігіі? ✻ Чарнобыльская фотавыстаўка ў Гайнаўцы ✻ Што і чаму ў нашым палітычным руху.**

© PDF: Kamunikat.org 2016 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2016

# БЕЛАВЕЖА

СТАРОНКА ЛІТАРАТУРНА - МАСТАЦКАГА АБ'ЯДНАННЯ № 380

## ЯН ЧЫКВІН

### ***

Аграмадная ноч. Цяжкія фалды туману,
Цьмяная яснасць нібы сходы ў нябыт.
Ты прадзеш... У вачах нашых шкляных
Твой і мой лёс як ніткі сцюдзёнай вады.

Хутка поўнач - дзесь певень праспяваў два разы.
Вось і пражы канец... І нахлынь цішыні.
Поў жыцця без жыцця і агня ў агні -
Разбягаюцца кругі ад кроплі слязы.

### Трое нас. Трое вас.

*М.Т.З.*

Трое нас -
Кініць і варыцца спажыва.
Ў цёмным шалі палымнее
Галубы агонь тваіх вачэй.
Дзень стары
Кладзе перада мною
Ценяў вострыя нажы.
Мы далонямі чуем,
Як рыхтуецца для нас
Тут апошняя вячэра.

Трое вас -
Любоў, вясновая спіраль
І мройная магчымасць!
Мала-мала трэба вам
Давясці нас да мяжы,
За якою іншы свет,
І пакінем гэты - нам чужы ...

Хутка выгарыць душа свячы.
Ці паспеем мы з табою, двое, уцячы?

### Утрапенне

Вячэрні Беласток каханнем апантаны.
Павязаны інтымнымі шляхамі маладых
Расчырванеўся звабнымі адценнямі сардэчных ранаў;

Паненкі свецяць нібы лямпы Алядына!
Ці як бутэлькі моцнага віна!
У званах спадніц
Нагамі звоняць песні гожыя нявінніц.

Дзявочым полем ляцяць светлячкі маладзіц.
Падманна-пахучыя знакі на крылах.

### Клён і вішня

"Каханая, мой у клёне пачатак,
А твой - з вэлюму вішні.
Жыццё зноў для нас святам,
Калі запрасіў Усявышні.

Ты калісь бегала - сінія вочы -
Вольная вольнасць - лёгкае цела -
Боская пышнасць рухаў дзявочых -
Ты калісь... над вадою змярцвела...

Я той, хто сэрцам памяці помніў
Голас твой. Ён свету - залатым прыскам...
Я табе дзён жывых, па той бок промняў,
Нёс ў падарунку на вясельным паўміску.

Нёс - не данёс... Лёс разамкнёны...
Нас раздзяліў - ды наасобку калыша..."

Чуе вішня парывы хлапечага клёна.
Бачыць клён, як к вянчанню строіцца вішня.



### „Светлы міг" Яна Чыквіна

**З НОВАЙ КНІГІ „МАСЕЕВА КНІГА "**

## Масей Сяднёў

Кагадзе я атрымаў ад паэта Яна Чыквіна з Беластоку ягоную кніжку вершаў "Светлы міг", што выйшла ў выдавецтве "Мастацкая літаратура" ў 1989 годзе. "Светлы міг" быў для мяне нечаканым адкрыццём цудоўнай, гаворачы вобразна, балонкі ў вакне нашай сучаснай паэзіі. Як кажа паэт, Муза "прадыктавала яму на вуха словы", што ўрэшце і склалі кніжку "Светлы міг". "Светлы міг" - гэта і для нас светлы міг адкрыцця паэтавага сьвету. Паэт выхоплівае з пацёмкаў глыбінныя пласты нашага быцьця, імкнецца "паспрабаваць бяздонне часу", заглянуць у вечнасць. Паэт гаворыць: "... пад неба ўюся зорнае і вечнасьць п'ю глыткамі невялікімі". Ці не адсюль і тая дружба з Музай, што дыктуе паэту на вуха свае словы? Ня кожны можа заслужыць такую даверлівасьць высокай Музы.

Паэзія Яна Чыквіна па сутнасці філасофская паэзія. Яна вяртае нашую паэзію ў лона еўрапейскай паэзіі, да вопыту Максіма Багдановіча. Экзістэнцыянальна яна адрозная ад нашай сённяшняй пэзіі, калі хочаце - нават запярэчвае яе матэрыялістычную аснову, яна ў нашай паэзіі - як бы новая планета, хоць яшчэ і не адкрытая. Паэзія Чыквіна сімвалічная, метафарычная, як і належыцца быць сапраўднай паэзіі. Затрымаемся ж крышку на вобразнай сістэме кніжкі "Светлы міг", загляньма ў паэтычную гаспадарку Чыквіна. У вершы "Май", напрыклад, дадзены цікавы вобраз вясны. Вясна ў Чыквіна "налівае цяпло ў **пасудзіну раслін**, Спаўняе **таямніцу маяхрышчэння**". Як гэта добра сказана! Гэта нібыта паганскае дзейства прыроды. Нязвычны вобраз: "Вясна налівае цяпло ў **пасудзіну раслін**". Гэтую нязвычнасць надае яму зматэрыялізаванае, нібыта грубое "**пасудзіна раслін**". Такая "вульгарызацыя" вобразу прадметнасцю - ці не адна з характэрных рысаў паэзіі Чыквіна. Вось яшчэ адзін падобны прыклад: "Так калісьці пераліваліся ў **вядро юнацтва** гадзіны з **возера дзяцінства**". Але гэтая на першы пагляд нязвычайнасць, зматэрыялізаванасць, "вульгарызацыя" вобразу прадметнасцю: **пасудзіна раслін, вядро юнацтва**, толькі яшчэ больш падкрэслівае, гіпербалізуе вобраз, робіць яго больш наглядным, больш даступным. Гэта не зніжае ягонай эстэтычнай вартасьці.

А вось вобраз "таполяў": "У шчырае поле таропка топаюць таполі". Надзвычайная інструментоўка! Ці вобраз **месяца** ў рэчцы: "Плыве па рэчцы цёплы месяц, Быццам на стол вясельны гуска". Параўнанне месяца з гускай зноў жа нязвычнае, хоць вобраз **плывучага** ў вадзе месяца добра асацыіруецца з дарогай няшчаснай гускі да стала. У Яна Чыквіна нават дождж "выбіраецца **няцвёрдым крокам** на бальшак-дарогу і сыпле **мокрыя** зярняты направа і налева". Пятрусь Макаль у сваёй прадмове да зборніку "Светлы міг" называе падобныя вобразы "зрокавымі зямнымі вобразамі". Бяспрэчна, зазямленне, беларускае зазямленне тут ёсць. Ёсць у Чыквіна і вобразы, эстэтычна так бы сказаць, больш далікатныя, музычныя: "З грацыі кветак музыкай тхне", "Рэчка замірае ў меланхоліі цячэння", "Макі грэюць рукі", у садзе вясной - "пчаліны фэст, як дня благавест". Ёсць у Яна Чыквіна і вобразы, так бы мовіць, быційна-метафізічнага складу: "Мы - ластаўкі, што ў палёце адчайным **крылышкаюць** над чужароднаю ім гладдзю вод". Ад назоўніка **крылы** ўтвораны дзеяслоў **крылышкаць** - цудоўна! Або яшчэ такі вобраз: "Ты адыйшла, як адыходзіць цень на грані дня і ночы ад прадметаў". Тут бадай што блокаўская сімволіка - "Ты в поля отошла без возврата, да святится имя твое". Зрэшты, цяжка ўявіць паэзію без сімволікі.

Я назваў паэзію Яна Чыквіна еўрапейскай паэзіяй, але ягоная "еўрапейская паэзія" наскрозь прасякнута духам беларускасці, яна еўрапейская і адначасна нацыянальная. Як сказаў Бярдзяеў, культура ніколі не была і ніколі не будзе адцягнена чалавечай, яна заўсёды канкрэтна-чалавечая, гэта значыць нацыянальная, індывідуальна-народная і толькі такою сваёю якасцю яна ўзвышаецца да агульначалавечага. Досыць прыгадаць тут такія вершы Чыквіна, як "Заход сонца ў аколіцы Дубіч-Царкоўных", "Беластоцкая элегія", "Навальніца ў Беластоку", "Ля Белавежскай пушчы", "Гайнаўшчына" і іншыя, каб пераканацца, што еўрапейская паэзія Чыквіна ўзрасла на беларускай глебе, жывіцца ейнымі сокамі, яна прапісана на зямлі, дзе "Дзед круціў пласцінку жорнаў і коўш мукі быў поўны". Але падобную канкрэтыку нельга разглядаць, як заземленасць паэзіі Чыквіна. Паэт гаворыць: "Душой імкнуся ўвысь, ляцець абы-куды". Любая матэрыя ў Яна Чыквіна "намагаецца ў мелодыю выліцца".

Ёсьць у Чыквіна і матыў дабрадзейнай, так званай вечнай жаноцкасці /Das Ewig Weibliche/. Дазволю сабе падаць тут цалкам невялічкі верш Чыквіна:

*Ёсьць у нашым беластоцкім краі*
*Нязвычайнай прыгажосці жаночыя твары.*

*Высакароднай прыроды цудоўныя блікі -*
*Святыя абліччы, каханыя лікі.*

*Як ад агню, ад іх займаюцца чэрствыя душы*
*І, згарэўшы датла, стаюцца велікадушнымі.*

*І ад чараў гэтых мы штораз уваскрэснем,*
*Абнятыя жарам жаночым, нябесным.*

"Абнятыя жарам жаночым, нябесным", "згарэўшы датла", душы нашы становяцца больш шляхетнымі, „велікадушнымі"- ці не такая функцыя паэзіі наогул, паэзіі Яна Чыквіна ў прыватнасці?

Нарэшце, нельга не закрануць вобраза самога творцы, вобраза паэта ў паэзіі Чыквіна. Які ён? Канешне ж, звычайна - мізэрны, нікім незразуметы, адрынуты, бяздомны, расьпяты на крыжы.

*Няма ні славы, ні багацця -*
*Адно скрыпучае пяро*
*Тырчыць з чарнільніцы рабром*
*І крыж для новага распяцця.*

*Я вельмі самотны - айчыны не маю,*
*Матчынай ласкі.*

Што гэта - сум па нябеснай бацькаўшчыне, характэрны для сімвалістаў, ці сум па Беларусі? Па ейнай матчынай ласцы? Настальгія эмігранта? Гэтак вось, да чаго б ні дакрануўся Чыквін, пра што б ён ні пісаў - усё ў яго "намагаецца ў мелодыю выліцца". Часам гэтая мелодыя ў сваім намаганні зрываецца, але яна сягае, як кажа паэт, у высь, дадамо - на глыток вечнасці. Кніжка вершаў Яна Чыквіна "Светлы міг" - гэта прыгожая мелодыя, немалы набытак нашай айчыннай славеснасці.

**1991. Глен Коў, ЗША**



© PDF: Kamunikat.org 2016 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2016




( Працяг са стар. 2 )

сэнсе толькі невялічкую групу студэнтаў і інтэлігенцыі /"Ніва" з 27.I.91 г., стар. 1, "Тыгоднік Падляскі" н-р 3/91, стар. 12/, але не здолела выпрацаваць базу ў шырэйшых этнічных асяроддзях і тым самым сталася дэмакратычнай толькі з назову, прысвоіўшы практычна прыкметы элітарнай арганізацыі.

Дыстанцыя, што аддзяліла грамадзян ад зацкованага БГКТ, не прыблізіла іх ні на цалю да элітарнага БДА, стварыла зону нічыю, у якой людзі страцілі арыентацыю, каму можна верыць у тых раздзертых, як кажуць, "грызнёю", кіраўнічых кругах, што вынішчае іх сілы, шкодзіць грамадскай справе ды памагае працаўнікам беларускага адраджэння.

Гледзячы збоку, насоўваецца пытанне: ці інспіраваная Беларускім дэмакратычным аб'яднаннем Рада беларускіх арганізацыяў у абставінах наступаючай дэзінтэграцыі, прычыненай кіраўнічымі кругамі тых жа арганізацый, зможа дотыкам чарадзейскай палачкі раптам зінтэграваць беларускі рух, а тым больш стацца партнёрам урада РП - свайго роду "малым беларускім парламентам" /"Ніва" з 10.02.91 г., стар. 3/? Ды з якой элекцыі народзіцца той "парламент"?

Вернемся, аднак, да публікацыі "Мой апошні пленум". Мушу прызнацца, што жыццё нядрэнна пазнаёміла мяне з "бальшавіцкімі прыёмамі", думаю, не горш, чым шаноўнага аўтара публікацыі, але сапраўды не магу дашукацца сувязі між цяжкай дыскусіяй над істотнай праблемай даверу кіраўнічым штатным апаратчыкам БГКТ і "бальшавіцкімі прыёмамі", ці тым, што "бальшавікі ўсё яшчэ кіруюць Беларуссю". Зразумела, што заданнем Янкі Максімюка можа быць абарона сяброў сваёй палітычнай арганізацыі БДА, але каго могуць пераканаць, няхай сабе й модныя, страшакі без пакрыцця аргументамі?! Прышыванне ярлыкоў - гэта якраз і ёсць адзін з метадаў ведамай хіба ўсім нам прапаганды. Пастараймася, аднак, зважыць магчымыя меркаванні другога боку. Хлопцы зразумелі, што ў атмасферы непрыхільнасці да БГКТ шанцы на яго праспериту мізэрныя, і падаліся ў абоз працўніка - у БДА. Не дзіва, што ў такім выпадку грамадская кіраўніцтва БГКТ магло паставіць пытанне наконт іх лаяльнасці да Таварыства. Хто цікавіцца функцыянаваннем грамадскіх арганізацый, ведае, наколькі важнай для незаганнага дзеяння арганізацыі з'яўляецца пастава і роля штатнага кіраўніцтва. У тэксце публікацыі вылічаюцца як закід другарадныя факты, а асноўная прэтэнзія ў адрас сп. Віктара Стахвюка адносна абсталявання друкарні чамусьці рыкашэтам адбілася, дасягаючы самога старшыню.

Трэба згадзіцца з фактам, што фрагмент тэкста праграмнай дэкларацыі, цытаваны ў артыкуле, калі поўнасцю адлюстроўвае тэкст той дэкларацыі, заслугоўвае на асуджэнне. Тым больш сумна, што члены Пленума, ці можа самога Прэзідыума БГКТ - сааўтары тэкста, нароўні са старшынёю так бескрытычна аднесліся да справы, а цяпер трасуць кулакамі. У публікацыі старшыня абвінавачваецца за сааўтарства дэкларацыі, але нідзе ніхто не ставіць яму закід аб навязванні сваіх поглядаў іншым у якой-колечы аргументацыі альбо наогул выказванні думак.

Дэкларацыю Таварыства супрацоўніцтва з Царквою з мэтаю захавання хрысціянскай этыкі, заяўленую старшынёю БГКТ, няцяжка адчытаць як

( Працяг на стар.6)






Старая хата ў Плюцічах.
Мал.У.Петрука.

Міжнародны кангрэс беларусістаў

# Беларускі круглы стол

У трэцім дні Міжнароднага беларускага кангрэсу быў арганізаваны круглы стол "Беларуская дыяспара". Народу зыйшлося столькі, што не ўсе змясціліся ў зале.

Прынцыпы ўдзельніцтва ў дыскусіі аказаліся няясныя. Пачаткова я думаў, што кожны прысутны зможа ўзяць голас. Аднак пасля аказалася, што існуюць нейкія абмежаванні. Вялі "круглы стол" прадстаўнік БССР Галіна Сяргеева і прадстаўнік Англіі Джым Дынглі. Пасля даўгаватай прамовы Г. Сяргеевай, якая гаварыла аб патрэбе шырокіх кантактаў з Радзімай усіх беларусаў, якія апынуліся па-за межамі БССР, выступіў адзін з вядучых беларускіх дзеячоў у ЗША Вітаўт Кіпель. Расказаў ён у сваім дакладзе аб гістарычных лёсах беларускай эміграцыі ў XIX і пачатку XX ст.ст. Калі дакладчык стаў пераходзіць да пасляваеннай эміграцыі, быў ён пазбаўлены голасу па прычыне перакрочання нормы часу. Я папрасіў, каб мне дазволілі выступіць, аднак атрымаў ад Д. Дынглі адказ, што дасць мне голас у канцы. Тым часам пачалі выступаць прадстаўнікі Беларусі. Яны шырока тэарэтызавалі аб тым, што такое эміграцыя, а што не эміграцыя. "Адкрылі", што беларусы на Беласточчыне гэта не эмігранты. Словам, у тым, што гаварылі, былі перад усім банальныя сцвярджэнні, якія нічога новага ў справу не ўнасілі. Найбольш мяне ўразіла выступленне маладога чалавека, які па сутнасці падпісаўся пад сталінскімі рэпрэсіямі ў адносінах да такіх выдатных прадстаўнікоў беларускай навукі, як Ластоўскі, Цвікевіч і Ігнатоўскі. Малады чалавек, так як гэта калісьці рабілі сталінскія пракуроры, прыпісаў усім названым дзеячам-вучоным тое, што яны бралі ад літоўцаў або палякаў грошы і гэтым самым былі агентамі чужых краін. Калі б ісці такім шляхам разумення спраў, якія прадставіў гэты малады чалавек, дык, несумненна, усіх удзельнікаў кангрэсу таксама трэба было б залічыць у лік савецкіх агентаў, бо кангрэс фінансаваўся Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікай. Калі я слухаў тую лёгкасць і катэгарычнасць, з якой малады чалавек абвінавачваў сталінскія ахвяры Ластоўскага, Цвікевіча і Ігнатоўскага, дык здавалася мне, што Яжоў, Берыя і Цанава радасна падскокваюць у магілах і цешацца, што іх спосаб разумення і трактоўкі ворагаў народа мае прадаўжальнікаў і аднадумцаў.



*Злева: Вітаўт Кіпель, Аляксандр Баршчэўскі і Ян Чыквін.*

Праслухаўшы каля васьмі прадстаўнікоў БССР, вядучы круглы стол Дынглі адкрыў дыскусію на тэму даклада. Тады я папрасіў голас і сказаў наступнае: "Я нічога не разумею з таго, што тут робіцца. Сорак пяць гадоў аб эміграцыі ў БССР гаварылася выключна дрэнна. Першы раз надарылася нагода выслухаць інфармацыю ад прадстаўніка эміграцыі. Аднак, выступленне яго было спынена. Тым часам выступаюць адзін за другім прадстаўнікі БССР і расказваюць прадстаўнікам эміграцыі і прадстаўнікам беларусаў з Польшчы, хто такія эмігранты і хто такія беларусы з Польшчы. Ці не лепш было б выслухаць беларусаў з Захаду і з Польшчы, каб сказалі аб сабе і каб прадстаўнікі БССР іх дакладна паслухалі замест гаварыць ад іх імя?

Словы мае былі сустрэты апладысментамі. У такой сітуацыі Д. Дынглі запрапанаваў В. Кіпелю закончыць даклад, што ён і зрабіў, даючы ўсебаковы аналіз беларускага эміграцыйнага жыцця. І тут наступіў дзіўны сітуацыйны паварот. Ізноў пачалі выступаць прадстаўнікі БССР, гаворачы выключна аб амерыканскай эміграцыі. Наступіла свайго роду татальнае маленне і захапленне эміграцыяй. Вось гэтая крайнасць мне і не спадабалася, бо ў кожнай аднабаковасці бачу небяспеку для рацыяналізму. Нядобра было тое, што захапленні мелі наогул галаслоўны, пазбаўлены канкрэтнасці характар. Нарэшце, удалося ўключыцца ў дыскусію і мне. Вось тое, што я "палажыў" на круглы стол:

„Айчына павінна дзейнічаць на раскіданых па свеце суайчыннікаў так, як дзейнічае на жалезныя апілкі магніт - прыцягваць іх. На жаль, Беларусь пакуль што такой ролі не адыгрывае. Для прыкладу, Кафедра беларускай філалогіі Варшаўскага універсітэта на працягу трыццаці пяці гадоў свайго існавання запрасіла на свой кошт каля пяцідзесяці навуковых супрацоўнікаў з Беларусі. Беларусь за гэты час не запрасіла ніводнага навуковага супрацоўніка з кафедры. Аднак, у апошніх двух гадах сітуацыя змянілася. Апошнім пазітыўным доказам гэтых перамен з'яўляецца сённяшні кангрэс. Нярэдка прадстаўнікі Айчыны не толькі не дапамагалі суайчыннікам за мяжой, але нават ім перашкаджалі. Прыкладам можа быць асветніцкая дэлегацыя з Брэста, якая каля дзесяці гадоў таму назад прыехала ў Беласток і, даведаўшыся аб беларускіх школах на Беласточчыне, даказвала, што такія школы непатрэбныя, бо ўсе беларусы з Польшчы пасля вайны пераехалі ў СССР, а ўсе палякі з СССР паехалі ў Польшчу. Балючым ёсць і тое, што прыехаўшы ў БССР, не адчуваем Беларусі. Наадварот, сустракаемся з праявамі іроніі, пагарды і кпін, калі гаворым па-

# НАШЫ КАРАНІ

### XII. ЗА ЧАСОЎ ЯРАСЛАВА

"Бацька ж яго Уладзімір зямлю ўзараў і змякчыў, хрышчэннем асвяціў; ён жа засеяў кніжнымі словамі сэрцы веруючых людзей... Бо ёсць вялікая карысць ад навукі кніжнай..." Гэтак летапісец ацаніў дзейнасць сярэдняга сына вялікай княгіні Рагнеды, пра якую як пра хросную маці беларусаў мы папярэдне гаварылі. Быў ім вялікі князь з хросным імем Юры, але ў гісторыі вядомы па сямейным імені Яраслаў, якому за выдатныя разумовыя здольнасці гісторыя надала званне Мудры. Панаваў у 1019-1054 гадах.

Жыццё не паскупіла Яраславу шматлікіх паходаў і ўдзелу ў крывапралітных бітвах. Аднак ён наперакор усяму злому найболей часу прысвячаў духоўным справам і акружаўся адукаванымі людзьмі. За яго панавання спачатку ў Ноўгарадзе Вялікім, а затым у Кіеве наступіла далейшае ўмацаванне хрысціянства ва ўсёй Рускай дзяржаве, паглыбілася знаёмства яго ісцінаў і ўкараненне паводзінаў людзей згодна з Хрыстовым вучэннем. Выхаваны маткай у глыбокай пашане да Свяшчэннага Пісання, Царквы, набажэнстваў, духавенства, князь Юры-Яраслаў дбаў пра пабудову новых храмаў, між іншым, дзякуючы яго стараннням паўстаў славуты Сафійскі сабор, які і сёння красуецца ў Кіеве. Па княжаму загаду ў значных цэнтрах, такіх, як Кіеў, Ноўгарад Вялікі і іншых, паўсталі школы, у якіх рыхтавалі дзяцей на святароў. Ён таксама ў сталіцы і ў іншых мясцовасцях, пераважна пры цэрквах і манастырах, засноўваў майстэрні, у якіх перакладаліся з грэцкай на славянскую мову духоўныя і свецкія творы, а шматлікія арцелі /скрыпторы/ перапісчыкаў размнажалі кнігі. Сам князь часта заглыбляўся ў чытанне кніг, нярэдка па цэлых днях і начах не адрываўся ад чытання, шукаючы і знаходзячы ў кнігах адказы на розныя пытанні духоўнага і свецкага жыцця. Пры ім адзін з самых светлых, самых адукаваных людзей таго часу на Русі - Іларыён - быў пастаўлены мітрапалітам кіеўскім, гэта быў першы архіпастыр усходнеславянскага паходжання. Пры ўдзеле князя Яраслава быў таксама складзены першы ва ўсходняй Славяншчыне пісаны кодэкс грамадзянскага права - Руская Праўда. Гэта спрыяла парадку і спакою ў краіне, справядліваму разбору розных судовых справаў.

Яраслаў Мудры некалькі разоў наведваў землі цяперашняга Падляшша. Пра гэта гаворыцца ў самых старажытных летапісах. Першы раз ён прыходзіў сюды ў 1022 годзе на чале шматлікай дружыны. Тады, відаць, перамог войска свайго брата /па бацьку/ Святаполка, здабыў Бярэсце /сённяшні Брэст/ з наваколлем і падпарадкаваў сваёй уладзе. Па тэрыторыі сённяшняй Беласточчыны, мабыць, прайшоў ён са сваёй дружынай, калі ў 1038 годзе ваяваў з яцьвягамі, што жылі на цяперашняй Сувальшчыне. Затым два разы - у 1041 і 1047 гадах - ён вадзіў праз тэрыторыю Падляшша сваю дружыну ў Мазавецкаю зямлю супраць дзяржавы Маслава. Відаць, побыт Мудрага ў 1038 і 1047 гадах пакінуў значны след в ўмацаванні хрысціянства, пабудове цэркваў, а магчыма таксама заснаванні манастыра ў нашым рэгіёне.

Цікава, што сярод жыхароў Бельска-Падляшскага да сёння жыве паданне, быццам бы першую царкву ў гэтым горадзе, храм Успення Прачыстай Багародзіцы, заснаваў вялікі князь Яраслаў Мудры. Варта адзначыць, што на 1941 год вызначалася ўрачыстае святкаванне гэтай падзеі бельскай праваслаўнай грамадскасцю. Як вядома, полымя другой сусветнай вайны не толькі што не дазволіла адзначыць 900-годдзе найстарэйшага храма ў Бельску, але і знішчожыла другую старажытнейшую ў Бельску Мікалаеўскую царкву. Яна ўзвышалася на тым месцы, дзе цяпер стаіць комплекс беларускіх школаў.

**Мікола Гайдук**



*На першым плане Зора Кіпель і Джэймс Дынглі.*

беларуску. У такой сітуацыі хутчэй можна гаварыць, што Беларусь з'яўляецца для нас мачыхай, а не роднай маці. Стан рэчаў зменіцца толькі тады, калі Беларусь станецца Беларуссю. А гэта ажыццявіцца ў тым выпадку, калі паслядоўна будзе выконвацца пастанова Вярхоўнага Савета аб мове. Аднак гэтага пакуль што не відаць. Нельга сказаць, што няма ніякіх сімптомаў новага. Ёсць! Мы вельмі задаволены супрацоўніцтвам з Саюзам пісьменнікаў БССР, "Радзіма" і фондам культуры. Усе гэтыя ўстановы і арганізацыі значна дапамагаюць БГКТ і Беларускаму музею і гэта не можа нас не цешыць. Думаецца нам, што для інтэнсіфікацыі нашага супрацоўніцтва трэба зрабіць наступнае:

*1. Адкрыць у Беластоку Генеральнае беларускае консульства, якое спрыяла б культурнаму абмену, гаспадарчаму супрацоўніцтву, турыстычнаму і асабоваму руху паміж БССР і беларусамі ўсходняй Беласточчыны.*

*2. Шырэй адкрыць вароты беларускіх навуковых устаноў для выпускнікоў беларускіх ліцэяў у Бельску-Падляшскім і Гайнаўцы.*

*3. Інтэнсіфікаваць абмен калектываў мастацкай самадзейнасці.*

*4. Прадаўжаць дапамогу БССР для пабудовы Беларускага музея ў Гайнаўцы.*

*5. Развіваць супрацоўніцтва Саюза пісьменнікаў БССР з беларускім літаратурным аб'яднаннем "Белавежа".*

*6. Адкрыць у польска-беларускай мяжы некалькі пераходаў для жыхароў прыгранічных раёнаў."*

Выступленне маё было сустрэта ўдзельнікамі круглага стала добразычліва.

У суме дыскусія была жывая і эмацыянальная, аднак крыху аднабаковая. Здаецца мне, што існуе патрэба далейшых сустрэч такога тыпу, якія грунтаваліся б не на дэкларацыях, а на канкрэтах.

**Аляксандр Баршчэўскі**



*Злева: Янка Запруднік, Іван Навуменка і Ніл Гілевіч.*

## СУПРАЦОЎНІЧАЦЬ У ВЫХАВАННІ ДЗЯЦЕЙ

У Мінску цяпер 20 школаў з беларускай мовай навучання. У 56 школах ёсць паасобныя класы, у якіх моладзь вучыцца на роднай мове - такіх класаў 274. Яшчэ адна беларуская 11-класная гімназія, якая выпускнікам дае дыплом настаўніка. І гэта ўсё. Агулам у Мінску на беларускай мове навучаецца 2,5 прац. дзяцей.

Гэтая мізэрная лічба набірае іншага гучання, калі супаставіць яе з іншай - тры гады таму назад у сталіцы Беларусі па-беларуску вучылася ўсяго 0,001 працэнта дзяцей.

Пра гэта ў бельскай "тройцы" гаварылі сябры гарадскога бацькоўскага камітэта беларускіх класаў і школ Ірына Кушнярова і Алесь Шамак /ад двух гадоў яго старшыня/, якія прыязджалі з групай мінскіх вучняў. Камітэт - самастойная суполка, з уласным банкавым рахункам, пры Таварыстве беларускай мовы. Узнік ён у 1988 годзе, дзякуючы намаганням саміх бацькоў, якім мова навучання іхніх дзяцей не была справай абыякавай. Першым старшынёю камітэта быў Ігар Чарняўскі /цяпер у гарсавеце Мінска/, яго намеснікам Яўген Цумараў /зараз дэпутат Вярхоўнага Савета БССР/.

Калі людзі з камітэта зацікаліся ў начальнікі, працаваць стала лягчэй, ды і на будучыню можна глянуць з большым аптымізмам. А сам камітэт за тры гады з сяброўскага гурта ператварыўся ў афіцыйную арганізацыю. Пасяджэнні сяброў камітэта праводзяцца раз у месяц. Іх дзейнасць, напэўна, мае таксама ўплыў на лікі, што прыводзіліся ў пачатку.

Бацькоўскі камітэт зацікаўлены ў навязанні сувязяў з усімі, хто клапоціца пра лёс навучання беларускае мовы, з настаўнікамі, бацькамі, афіцыйнымі ўстановамі і прыватнымі асобамі. Напачатак найлягчэй было б арганізаваць абмен групамі дзяцей. Алесь Шамак дэклараваў, што Мінск можа прыняць нават 25 асобаў на месяц, найлепш дзяцей ад другога да восьмага класаў. Зрэшты, умовы, на якіх будзе праводзіцца абмен, выпрацуюць непасрэдна зацікаўленыя.

Бацькоўскі камітэт беларускіх класаў і школ Мінска чакае прапаноў супрацоўніцтва па пытаннях адукацыі і выхавання дзяцей. Лісты з прапановамі трэба кіраваць на адрас:

220136 Мінск,
вул. Адзінцова 79-к.2-кв. 96
Алесь Шамак

Можна таксама патэлефанаваць. Старшыні камітэта ў хату, нумар - 580881, або спадару Міколу Кійко на працу, нумар- 209629.

**М.В.**

## БЕЛАРУСКІЯ КАНТАКТЫ

На Беласточчыну штораз часцей прыязджаюць госці з братняй Беларусі. Наведваюць наш рэгіён не толькі турысты. Пазнаёміцца з нашымі праблемамі захацелі і беларускія парламентарыі. Дэлегацыя дэпутатаў з Маладзёжнай камісіі Вярхоўнага Савета ў складзе: Міхал Жабрак, Віктар Кучынскі, Валеры Паўлаў, Аляксей Даўлюд і Аляксандр Белы пабывалі на будове Беларускага музея ў Гайнаўцы і заслухалі інфармацыю Канстанціна Майсені - старшыні грамадскага камітэта пабудовы Музея, аб дасягненнях і клопатах гэтай арганізацыі.

Госці наведалі ў Гайнаўцы Святатроіцкую царкву, вядомую цікавай архітэктурай і цудоўным інтэр'ерам.

Беларускія парламентары былі ў Польшчы па запрашэнню нашага Сейма, а ў падарожжы па Гайнаўшчыне спадарожнічалі ім паслы Ян Шчыгельскі і Уладзімір Вечаркевіч з сеймавай камісіі па справах моладзі, культуры і спорту.

**М.Г.**




( Працяг са стар. 4 )

антыдотум на уніяцкую прапаганду ў БДА /"Ніва" з 9.09.90 г., з 11.11.90 г., з 9.12.90 г., стар. 7, "Тыгоднік Подляскі" н-р 3 /91 г., стар. 12, "Жыце Варшавы" з 5.11.90 г. і т.д./, што, як бачым, нашумела ў прэсе. Аўтар артыкула звяртае крытычную ўвагу на дзівосны, у яго ацэнцы, пераезд з пазіцыі марксізму-ленінізму А. Баршчэўскага на пазіцыі праваслаўя. Па-першае, нельга памінаць факт, што дэкларацыя творцца не для яе аўтараў, а для грамадства наогул з хрысціянскай этыкай. Па-другое, як заглянуць у закамаркі атэістычнай звонку душы паэта Алеся Барскага?.. Калі, аднак, гэта з'яўляецца толькі пераменай пазіцыі, то і так нельга той факт залічыць да кур'ёзаў. Сам аўтар артыкула сцвердзіў, што гэта паўсюднасць нашай эпохі. Калі ўзяць пад увагу такія факты з жыцця тутэйшай краіны, як, напрыклад, тое, што праф. Б.Герэмак ці Я. Курань - авангард камуністычнай апазіцыі апошняга часу - не так даўно былі камуністычнымі лідэрамі, альбо тое, што многія яшчэ члены БГКТ памятаюць, з якой пільнасцю на пераломе пяцідзесятых і шасцідзесятых гадоў сцярог ідэі ПАРП тадышні журналіст "Нівы", цяперашні лідэр БДА Сакрат Яновіч, то які сэнс асуджаць сёння якраз А. Баршчэўскага за спрыянне Царкве?

Мінулі гады, Сакрат Яновіч, дзякуючы літаратурным здольнасцям і працы над сабою, стаў вядомым у Польшчы беларускім пісьменнікам, а Аляксандр Баршчэўскі вёў прым у паэзіі і ў грамадскай дзейнасці незалежна ад дыдактычнай працы ва універсітэце. Факт фактам, абодва яны сталі прамінентамі беларускай культуры ў Польшчы і грамадзянскага жыцця беларускай меншасці.

Сакрату Яновічу пашанцавала, аднак, больш, бо ён як чалавек непамяркоўны "ляпнуў" нешта лішняе, за што яго выкінулі з ПАРП. Факт гэты дабавіў яму папулярнасці, асабліва сярод студэнцкай моладзі, з якою ён арганізаваў псеўдападпольнае, хай сабе й скромнае, выданне "Беларускіх сшыткаў" і навязаў супрацоўніцтва з польскімі выдавецтвамі т.зв. "другога абегу". Моладзь, вядома, любіць падпольныя гульні, тым больш, што ўжо ў тым часе яны не былі такімі небяспечнымі, а сам факт паклікання маладога дзеяча на размову ва ўстанову ўнутраных спраў, накідаў на яго ў вачах сяброў арэол героя.

На маю думку, Сакрат Яновіч прычыніўся такім чынам да аб'яднання расцярушанай беларускай студэнцкай моладзі, росту яе нацыянальнай свядомасці, што ў выніку паспрыяла заснаванню Беларускага аб'яднання студэнтаў.

Аляксандр Баршчэўскі мусіў прадаўжаць далей свой контрэданс з дзяржаўнымі ўладамі дзеля забеспячэння фінансавых сродкаў на культурныя і арганізацыйныя патрэбы БГКТ, акцэптацыі праграмы дзеяння арганізацыі і наогул беларускага руху ў Польшчы. Як бы не старацца сёння крытыкаваць ці ганіць А. Баршчэўскага, немагчыма запярэчыць факту, што яму гэта ў вялікай ступені ўдалося дзякуючы яго эрудыцыі і эластычнасці ў кантактах з людзьмі.

Не памяншаючы значэння такіх прозвішчаў на Беласточчыне, як: Гайдук, Мірановічы, Туронак, Чыквін і інш., у папулярызацыі гісторыі беларускага народу, развіцця культуры ды абароны гэтых вартасцяў, аднак жа нельга аспрэчваць факт, што ў грамадскай дзейнасці былі і астаюцца пакуль што Аляксандр Баршчэўскі і Сакрат Яновіч як дзве штандаровыя постаці. Гібкасць і камунікатыўнасць А. Баршчэўскага, неэкспанаванне сваёй вышэйшасці над іншымі ў гэтых кантактах прыносяць яму папулярнасць і сімпатыю

( Працяг на стар. 7






## 17. На Брадвеі

Брадвей - гэта найдаўжэйшая вуліца Нью-Йорка. Цягнецца яна 240 кіламетраў, а перасякае яе, як і ўсе іншыя авеню / нумараваныя і з назвамі/, мноства вуліц - стрыт.

Недзе ў цэнтры Брадвея, у раёне 42-ой - 44-ай стрыт, знаходзіцца раён тэатраў. Усё найлепшае ў тэатральным мастацтве можна ўбачыць на Брадвеі. Калі нейкі акцёр трапіць туды, гэта набілітуе яго як творцу.

Не ведаю, якім цудам Данчыку і Раі Станкевіч удалося дастаць білеты ў тэатр "Маджэстык", але ведаю, што наогул людзі пачынаюць старанні, каб трапіць у гэты тэатр, на два гады раней. Найтаннейшы білет каштуе 50 доляраў, але ад гасцей Данчык і Рая грошай не бралі, а зрабілі ім такі цудоўны падарунак.У "культпаходзе" ў тэатр брала ўдзел амаль уся беларуская "смятанка" Нью-Йорка: Ала Орса-Рамана, Янка Запруднік, Антон Шукелайць, Юля Андрусішына і Данчык, Вера Бартуль з дзецьмі Аняй і Антонам, Рая Станкевіч. З гасцей былі: Міраслава Русак і Валянцін Стэх з Вільні, Сяржук Сокалаў-Воюш з Наваполацка, Галіна Прыма, Алінка Мяснікова, Валя Якімовіч з сынам Русланам - мінчукі, ды я - з Беластока, а мо і яшчэ хтосьці, ды не ўсіх удалося запамятаць.

Тэатр "Маджэстык", які месціцца на Брадвеі пры 44-ай вуліцы, - гэта музычны тэатр, нешта накшталт нашай аперэты. Ігралі "Фантома" кампазітара Вебера.



*Мы высыпалі з тэатра „Маджэстык" на Брадвеі.*

♦♦♦♦♦♦♦♦♦♦♦♦♦♦♦♦♦♦♦♦♦♦♦♦♦♦♦♦♦♦♦♦♦♦♦♦♦♦♦♦♦♦♦♦

# КАШМАР, АД ЯКОГА НЕ ПРАЧНУСЯ

( Працяг са стар. 1 )

А ён за пісталет. Я паспеў скочыць за дзверы і зачыніць за сабою - куля раструшчыла замок, але мяне не зачапіла, хоць я і думаў сабе ад страху: жывы я ці мёртвы? Ён панёс тое, што набраў, на фуру. Сястра мая кажа: уцякай, бо як вернецца, то табе хана. Я ўцёк цераз вакно і схаваўся ў суседа. Бацькі свайго я больш не бачыў...

**Вера Садоўская:** Цесця майго, Афанасія Садоўскага, забралі разам з Якубюком і Плісюком. Нашы якраз вярнуліся з поля. Было гэта на Велікодным тыдні, у аўторак пасля Вербніцы. Яны пайшлі ў клуню рэзаць сечку. Я забачыла нейкае войска ў вёсцы і бягу да іх у клуню, кажу: хавайцеся, бо прышлі грабіць. Цесць выпраг коні і паставіў у другую клуню, мой чалавек схаваўся ў прыстаранку. Але іх знайшлі. Я прашу, каб маладую кабылу пакінулі, бо жарабя ў яе малое, тры тыдні. Яны зараз вернуцца, казалі бандыты. Потым прыйшлі дахаты і бралі ўсё, што знайшлі: пабралі сукенкі, што я пашыла дзецям над Вялікдзень, кажух, нават насенную канюшыну забралі. І яшчэ палатно, што ў нас пакінула суседка. Забралі паршука, што мы закалолі, каўбасы, другога паршука застрэлілі і таксама забралі. Збожжа забралі, ва ўсіх "кацапаў" у вёсцы бралі. Забралі чатырнаццаць коней у вёсцы, сем падводаў ды іх трох, гаспадароў.

**Васіль Якубюк:** Слухайце далей. Ён рабіў у ГС-е, цяпер робіць у краме ў Вышках. Заходжу я раз, а ён кажа: слухай, Базыль, я табе хачу сказаць, дзе пахаваны твой бацька. Мая мамуся дакладна ведае. Калі гэта было, пытаеце? Прошлага року, у снежні. Так, так, 1990 року... Добра, на Тройцу заязджаем мы ў Асоўку, гэта 15 вёрст ад Стацэвічаў... Паехаў я, Сцяпан Плісюк, Садоўскі з сынам, што ўжо прыходзіцца ўнукам Афанасію Садоўскаму... Заходзім да іх у хату, ставім гарэлку... Там жа гэтая мамуся і яе стары... Давай мы гаварыць, але гэтая мамуся і яе сын, што мне ў Вышках сказаў, трымаюць старога за язык, бачу, не хочуць, каб што лішняе сказаў. Але ж ён сказаў, што ў 46-м быў камандзірам узводу... Так, быў у бандзе, гэта тое й значыць... Не перабівайце, слухайце далей. Дык дзе закапаны нашы бацькі? А яны круцяць - ні то тут, ні то там... У іх за клуняю... Ніхто дакладна не бачыў, нібыта... Калі стары сказаў, што быў камандзірам узводу, то мне, ведаеце, нядобра зрабілася, я на яго ўжо глядзець не мог... Пайшлі мы за клуню - кажуць, дзесьці тут... Паставілі мы знічы, памаліліся... І пытаем, дзе ж нам капаць? Старая паказвае нам адну ямку... Я не ведаю, што са мною тады сталася, нешта так сціснула за грудзі... Узяліся мы капаць, капаем

Глядач перажывaў разам з героем паказаныя з незвычайнай экспрэсіяй цярпенні закаханага чалавека, які здае сабе справу са сваёй брыдоты і ходзіць штодзень у масцы на палавіне твару, а жыве ў падзямеллі опернага тэатра, хаваючыся ад людзей. Фактычна гэта ён кіруе тэатрам, не здаючы сабе справы, што дырэктар тэатра - гэта не толькі яго сябра, але і родны бацька. /У нас нядаўна па тэлебачанні дэманстраваўся фільм "Upior w operze"/.

Несамавітыя гукі ліліся са сцэны, у выніку піратэхнічных эфектаў асвятлялася момантамі зала. Музыка і спеў ашаламлялі. Дзякуй табе, Данчык, за касету з гэтай музыкай, якую ты мне падараваў пасля спектакля. Слухаю яе кожны раз як новую; можна слухаць яе бясконца.

Нягледзячы на кошты білетаў, вялікі тэатр з двума ярусамі быў забіты бітком. Фатаграфаваць у тэатры забаронена, каб не перашкаджаць акцёрам, але я дыскрэтна бліснула пару разоў сваім "кейстонікам"; шкада, што здымкі не выйшлі занадта добрыя.

Пасля спектакля мы высыпалі на вуліцу. У вушах усё яшчэ гучала музыка, навокал мігацелі неоны розных колераў і калібраў. Атмасфера - як з фільмаў і вядомых здымкаў.

Зрабілі і мы памятны здымак з начнога Брадвея.

Тут, у гэтым шумлівым раёне нью-йоркскага Манхатана, чалавек, каб быў адзін, мог бы разгубіцца. Навокал нас хадзілі элегантныя людзі ў смокінгах і вячэрніх сукенках, але зусім побач з імі блукалі нейкія дзіўныя тыпы. Праўда, стылізаваных абадранцаў каля тэатра не было відаць. Але вось ідзе дзяўчына з зусім голымі плячыма і ў футраных боціках. Малады элегантны негр у белым касцюме недвухзначна падпірае сценку насупраць тэатра, са смешнай для нас надзеяй спаглядае і на нашу групу, якая якраз фатаграфуецца. Прыгожы хлапец з загарэлым тварам ідзе ў вераснёўскую нью-йоркскую спякоту ў футраной шапцы, а на яе начэплены розныя значкі невядомага паходжання: навокал звісаюць розных памераў ланцужкі з крыжыкамі, а пры ўсім гэтым ззаду яшчэ матаецца лісіны хвост. Усё гэта, каб звярнуць на сябе ўвагу, каб неяк выбіцца ў мнагалюдным натоўпе, заявіць аб сваёй прысутнасці. А ў няцэлым квартале ад гэтага месца, у напрамку аўтобуснай станцыі, проста на тратуарах сядзяць і палежваюць людзі - бадзягі, наркаманы і іншы зброд. Ніхто іх тут не кранае, відаць, нікому яны не перашкаджаюць. Людзі ўжо да іх прывыклі і ніякая паліцыя іх адсюль не гоніць.

Данчык хапае таксі, і пару асоб едзе начаваць да Андрусішыных, бо заўтра з раніцы ізноў нейкая экскурсія. На вячэру - каўбаса, такая, як ямо і дома, нешта накшталт "тарунскай", але ж смакуе надзвычайна. Варэнне розных гатункаў, якое павыцягвала спадарыня Юля Андрусішына з шафак, таксама, зрэшты.

/Працяг будзе/

**Ада Чачуга**




# У юбілей Элізы Ажэшка

6 чэрвеня 1991 г. споўнілася 150 год з дня нараджэння вядомай польскай пісьменніцы, гарачай патрыёткі Наднёманскага краю Элізы Ажэшка

. Грамадскасць Гародні ўрачыста ўшанавала яе памяць. У дзень юбілею адкрылася выстаўка, прысвечаная жыццю і творчасці пісьменніцы ў абласным гісторыка-археалагічным музеі. Былі ўскладзены кветкі на магілы Э. Ажэшка і яе маці ад гарадскіх і абласных устаноў.

Літаратурны мітынг ля помніка пісьменніцы адкрыў старшыня абласной арганізацыі Саюза пісьменнікаў Беларусі А. Карпюк, а з прамовамі выступілі: загадчык кафедры беларускай літаратуры Гродзенскага Дзяржаўнага універсітэта А. Пяткевіч, старшыня краязнаўчай асацыяцыі А. Майсяёнак; прадстаўнік Саюза палякаў Беларусі Р. Кацынэль. Маладыя паэты чыталі свае вершы.

На панадворку адноўленага Дома Э. Ажэшка адбыўся літаратурна-музычны вечар "У гасцях у пані Элізы". Студэнты I курса факультэта беларускай і польскай філалогіі Гродзенскага універсітэта выступілі з літаратурнай кампазіцыяй на польскай мове. Выступілі таксама фальклорныя калектывы, салісты, музыканты.

10 чэрвеня ў Гродзенскім абласным драматычным тэатры адбыўся ўрачысты вечар, які вёў А. Карпюк. Са змястоўным дакладам аб жыцці і творчасці Э. Ажэшка выступіла загадчык кафедры польскай філалогіі Гродзенскага універсітэта С. Мусіенка. Пасля даклада выступілі: метадыст абласной бібліятэкі імя Е. Карскага Л. Шагун - "Эліза Ажэшка ў маім жыцці"; літаратуразнавец з Мінска Я. Янушкевіч гаварыў аб новых архіўных матэрыялах, звязаных з постаццю Э. Ажэшка. Ю. Голуб прачытаў свой верш "Камін у Доме Ажэшкі"; польскі пісьменнік з Беластока А. Амільяновіч расказаў аб вялікай папулярнасці ў Польшчы літаратурных твораў Э. Ажэшка.

У другой частцы вечара II Беларускі Дзяржаўны акадэмічны тэатр імя Я. Коласа з Віцебска выступіў з цікавым спектаклем паводле аповесці Э. Ажэшка "Хам". Спектакль быў надзычай цёпла ўспрыняты гледачамі.

На заканчэнне варта прыгадаць, што Гродзенскае абласное аддзяленне Беларускага фонду культуры супольна з абласной бібліятэкай выпусцілі спецыяльны бюлетэнь "Эліза Ажэшка".

**Віктар Швед**




**( Працяг са стар. 6 )**

многіх людзей.

Думаю, што кожны, хто адчувае сябе беларусам, цэніць асабліва літаратурныя і публікатарскія змаганні Сакрата Яновіча за беларускую справу. Сам ён цэніцца перад усім "бойкай" моладдзю і з'яўляецца яе эміненцыяй. Даўкія заўвагі, кіраваныя час ад часу Сакратам Яновічам у адрас некага, хто думае ці чыніць інакш, чым ён сам, а то й спробы паніжэння дзеля прыкрыцця собскіх ухабін /"Ніва" з 30.12.90 г., стар. 2, з 31.03.91 г., стар. 3/, вярбальнае пераконванне ў сваёй вартасці ці заяўленне аб абмежаванні свайго зацікаўлення толькі інтэлігентным чытачом і т.п./Беларускі каляндар 1991 г., стар. 72, 73/,- усё падобнае ў суме, хоць і не памяншае фактычнай вартасці яго літаратурнага змагання за беларускія справы, то аднак дыстансуе ад грамадзян, а тым больш не пераконвае ў яго дэмакратызме як лідэра БДА.

Як відаць, кожны з упамянутых тут прамінентаў нашага грамадства мае свой разараны, але неаброблены палетак і варта было б злучыць сілы, каб супольна пасняхова культываваць тую раллю для супольнага лепшага жніва, а не замяняць свае палеткі ў палігоны вострай стральбы ў мішэні, пастаўленыя на граніцы, дзелячай тыя палеткі.

Час прыбліжае нас да выбараў у краіне, што будуць паказчыкам нашай грамадскай спеласці і еднасці. Ці гэтай справе могуць добра паслужыць публікацыі ў стылі "Мой апошні пленум"? Ці не варта было б прадумаць апублікаваную адначы старшынёю БГКТ прапанову пайсці супольна ў народ і пагутарыць з людзьмі? Вось пытанні, адказ на якія бадай ясны.

Самае, аднак, "жалюгоднае" ў артыкуле Я. Максімюка - гэта спроба знявагі А. Баршчэўскага як чалавека, у заканчэнні. Тут з цэлай сваёю сілай вырвалася з цугляў злыя эмоцыі, скіраваныя ў яго напрамку, але не з меншай сілаю трапілі ў самога нападаючага, агольваючы бяссільнасць і недахоп пераконваючай аргументацыі гэтай агрэсіі.

Не асуджаючы эмацыянальную нястрыманасць Я. Максімюка ў канкрэтным выпадку, хай чытач сам дойдзе да высанаву, ці яна можа добра служыць грамадскай справе беларускага асяроддзя. Зрэшты, думаю, што й сам Янка Максімюк меў час перадумаць справу спакойна.

**Янка Жамойцін**

той дол, а тут нейкія абручы, цэлафанавыя мяшкі, свінскія чэрапы і косці заваленыя... Узмыліла нас, як коней, але да людскіх касцей не дакапаліся... А тут народ з Асоўкі пазбіраўся, шляхтычы, стаяць і глядзяць, як мы костачак сваіх бацькоў шукаем. Маўчаць. Ну, кажу я, ходзіце вы ў касцёл і Богу моліцеся? Кажуць, так. Ой, кажу я, не моліцеся вы Богу так як трэба... Мы ж не зладзеяў і бандытаў шукаем, а нявінна памардаваных людзей... Хоць бы кол які ў магілу загналі, каб месца пазначыць... Маўчаць. А ведаюць жа, сволачы, дзе нашы бацькі ляжаць. А стары той бандзюга кажа: колькі часу прайшло, дый месца непрыгляднае, тут мая жоначка спраўляць патрэбы выбягала... ... Ну й што рабіць? Распытваем... Тая яго жонка кажа, што бачыла, як недзе тут прывялі нашых у бялізне, тут і пастралялі з аўтамата... А колькі было тых, што вялі? Гэтага яна не бачыла. Пачалі мы капаць у іншым месцы. Зноў дарма... Потым тая старая кажа, што есці ім, бывала, варыла, бандытам, значыць, яны да яе з шынкамі прыходзілі... І потым прыйшоў адзін мужчына і кажа: о тут яны ляжаць, у першай яме. Яны амаль зверху ляжалі, і калі іх ужо няма, то сабакі іх расцягалі... Я помню, кажа ён далей, што тут, бо мы сюды з суседам прыходзілі і кроў затоптвалі, бо многа было...

Эх... І мой кум Плісюк толькі на штых рыдлёўку ў тое месца ўсадзіў, тут і чэрап паказаўся... Схапіў той чэрап Садоўскі, закрычаў немым голасам - "Вы бандыты! Мяцеж праклятая!" Мужчыны маўчалі. Бабы іхнія, што таксама стаялі, пачалі плакаць. Я ўжо вачэй на палякаў не падымыў. Раскапалі мы тую магілу, павыймалі ўсе костачкі, паклалі каля долу... А адзін з іх кажа: трэба вам мяшочак які на костачкі або скрынку... О не, кажу я таму паляку, мы яшчэ можам купіць і труну, і грошай прасіць у вас не будзем, хоць вы і на зрабаваным нашым дабры разжыліся... Паехалі мы з Плісюком па труну ў Вышкі, прывезлі і паклалі ў яе нашых бацькоў, разам усе костачкі... Пахавалі мы іх на другі дзень на могілках у Райску... Была паніхіда, бацюшка добра сказаў над магілай...

Так, так, усе яны ведалі, увесь гэты час. І не толькі ў Асоўцы . Іх жа везлі да Асоўкі праз Варпэхі Новыя, Мешкі, Варпэхі Старыя, Кавалі, Фалькі, Гадзебы... Усе яны ведалі... Вязем "кацапскіх" вепрукоў, казалі ім...

*Героі й нікчэмнікі - вызначэнне, прыгоднае на школьную-акадэмію ці вечарыну, з вершамі й патрыятычнымі спевамі... Адно пакаленне спявала пра адных, другое ўжо спявае пра другіх. Балазе новы дух залунаў... У Занях, у Залешанах, у Стацэвічах, напрыклад, вызначаюць: мы і яны. І часта "мы і яны" жывуць у суседніх вёсках, альбо і ў той самай вёсцы. Жывуць і маўчаць, але ж не забываюць. "Мы" маўчым - бо народ мы такі "маўклівы", "яны" маўчаць - бо якосьці па-свойму разумеюць, што "мы" - гэта таксама народ, хоць і знак крыжа чыніць трыма пальцамі, а не пяцярнёй. А забыцця няма.*

**Стацэвічы, 18.06.1991 г.**

Запісаў ЯН МАКСІМЮК

## ХІТРЫ МУЖ

Мальвіна заўсёды распытвала свайго мужа, калі той насхаў на рынак, што ён там чуў ды бачыў. Спачатку муж аб усім расказваў, а пасля рашыў адвучыць жонку ад лішняй цікаўнасці.

Аднойчы, калі жонка спытала, што чуў ды бачыў, Косця сказаў, што сустрэў яе бацьку і той збіраецца з маці прыехаць у госці.

Мальвіна пачала рыхтавацца як на святы. Пякла пірагі, варыла кілбасы, мяса. Чакала бацькоў, ды не дачакалася.

Другі раз Косця расказаў, што ў яе сястры сваты былі.

- Ну і што і што? - дапытвалася Мальвіна.

- Ат, - махнуў рукой Косця, - твая сястра ісці не хоча. Хлопец ён добры. Можа пасля шкадаваць будзе.

Паехала Мальвіна сястру да замужжа намаўляць. Там даведался, што гэта ўсё няпраўда.

Прыехаўшы дадому пачала сварыцца. Косця сказаў ёй, што на дурное пытанне заўсёды дурны адказ знойдзецца.

З той пары перастала Мальвіна дапытвацца, што яе муж на рынку чуў ды бачыў.

**Аўрора**

НІНА АМЕЛЬЯНЮК

# ГУТАРКІ АБ МОВЕ

**IV. Сучасная беларуская літаратурная мова. Лексікалогія.**

4. *Амонімы. - працяг.*

Ад лексічных амонімаў трэба адрозніваць амаформы, амафоны і амографы.

**Амаформы** /ад грэч. homos - аднолькавы і лац. forma - форма/ - словы, якія належаць да розных часцін мовы і супадаюць у нейкай граматычнай форме. Сярод іх выдзяляюцца дзве разнавіднасці:

- амаформы, якія ўзніклі ў выніку выпадковага супадзення ў гучанні граматычных форм слоў, што належаць да розных часцін мовы, напр.: *вусны* /губы, рот/ - назоўнік назоўнага склону, множнага ліку і *вусны* /які вымаўляецца/ - прыметнік назоўнага склону адзіночнага ліку; *май* /назва месяца, травень/ - назоўнік назоўнага склону, адзіночнага ліку і *май* /ад *мець*/ - дзеяслоў загаднага ладу, другой асобы, адзіночнага ліку; *плач* /плаканне, рыданне/ - назоўнік назоўнага склону, адзіночнага ліку і *плач* /ад *плакаць*/ - дзеяслоў загаднага ладу, другой асобы, адзіночнага ліку;

- амаформы, якія ўзніклі ў выніку пераходу адных часцін мовы ў другія, напр. дзеепрыметнік *марожанае* /*марожанае* мяса/ і субстантываваны прыметнік *марожанае* /pol. lody/; прыметнік кароткай формы *ясна* /*ясна* зорка/, прыслоўе спосабу дзеяння *ясна* /сказаць *ясна*/, слова катэгорыі стану *ясна* /*на дварэ стала ясна*/. "Аманімія на ўзроўні розных часцін мовы называецца **канверсіяй** /ад лац. conversio - замена, пераўтварэнне/"1

**Амафоны** /ад грэч. homos - аднолькавы, phone голас, гук/ - словы, якія маюць аднолькавае гучанне, але пішуцца па-рознаму,

напр.: *грыб - грып, код - кот, лёд - лёт, род - рот; везці - весці; грубка* /від печы/ - *групка* /памяншальна-ласкальнае ад група/, *козка* - /памянш.-ласк. ад каза/ - *коска* /памянш.-ласк. ад каса/.

Супадаць гучаннем могуць не толькі асобныя словы, але і спалучэнні слоў, напр.: *патры* /дзеяслоў загаднага ладу, 2 асобы, адзіночнага ліку/ і *па тры* /спалучэнне прыназоўніка *па* і лічэбніка *тры*/, *адчаю* /назоўнік роднага слону, адзіночнага ліку/ і *ад чаю* /спалучэнне прыназоўніка *ад* і назоўніка *чай* у родным склопе адзіночнага ліку/.

**Амографы** /ад грэч. homos - аднолькавы, grapho - пішу/ - словы, якія аднолькава пішуцца, але па-рознаму вымаўляюцца, або адрозніваюцца месцам націску. Сярод амографаў выдзяляюцца дзве групы:

лексічныя, напр.: *ка́зачка - каза́чка, ка́са - каса́, му́зыка - музы́ка, па́ра - пара́;*

- граматычныя, напр.: *бе́рагу* /назоўнік давальнага склону, адзіночнага ліку/ - *берагу́* /дзеяслоў 1 асобы, адзіночнага ліку/, *ма́е* /дзеяслоў 3 асобы, адзіночнага ліку/ - *мае́* /прыналежны займеннік 1 асобы, множнага ліку/, *сталы́* /назоўнік назоўнага склону, множнага ліку/ - ста́лы /прыметнік назоўнага склону, множнага ліку/

Амонімы, амаформы, амафоны і амографы асабліва шырока выкарыстоўваюцца ў паэзіі. Вось некалькі прыкладаў:2

Пісьма адна *старонка,*
А нам з яе відаць,
Як родная *старонка*
Сігае - не дагнаць. /М. К./; *амонімы*

Ой, пайду я, выйду...
Выйду ў тое *поле,*
Дзе краса-дзяўчына
Лён кудравы *поле.* /А.Р./; *амаформы*

Сосны гэтыя і бярозы
Не пыталі,
Хто я, *адкуль,*
А мне серабром і бронзай
Засланялі ў вайну *ад куль.* /Аўр./; *амафоны*

Важны грыб баравік
Кпіць з маленькіх прывык...
Паднялі лісічкі рыльцы:
- Мы з лісой аднафамільцы...
Хоць ты, брацік, ганарлівы,
А зірнеш - увесь чарвівы,
Нас баіцца злы чарвяк,
Не крапае аніяк.
Ты закрый, крыклівец, *рот,*
Між грыбоў мы знатны *род.* /С.Ш./: *амафоны*

Ведайце, сябры *мае,*
Добрую прывычку *мае*
Той, хто першым устае, -
Сонейку дапамагае. /Віт./; *амографы*

Варта тут таксама некалькі слоў сказаць пра аднакарэнныя словы, але тоесныя па сваёй марфалагічнай будове і гучанню і розныя па значэнню - **паронімы** /ад грэч. para каля, побач,onyma - імя/. Паранімія як лексічная з'ява вылучаецца ў рамках адной часціны мовы, напр.: паронімы-назоўнікі: *пілаванне* /разразанне пілой/ і *пілавінне* /дробныя часцінкі чаго-небудзь, якія астаюцца пасля распілавання/; паронімы-прыметнікі: *рухавы* /які вызначаецца жывасцю, хуткасцю рухаў/ і *рухомы* /здольны рухацца, перамяшчацца/.3

Паронімы вельмі часта ўжываюцца памылкова, што выклікана або "пазамоўнымі фактарамі - блізкасцю тых рэалій, якія абазначаюцца паронімамі /*адрасат - адрасант, абанент - абанемент, нейтрына - нейтрон*/, або стылявымі прычынамі - неадрозніваннем прыналежнасці слоў да адпаведных стыляў мовы /... *баечны* /характэрны для байкі, звязаны з байкай - невялікім творам павучальнага характару/ - *байкавы* /зроблены з тканіны байкі/."4 Такога тыпу прыклады можна множыць.5

1 В. П. Красней, У.М. Лазоўскі, І. М. Шчарбакова, Сучасная беларуская мова. Лексікалогія. Фразеалогія, Мінск 1984, с. 25.

2 На падставе: В. П. Красней, Лексіка і фразеалогія беларускай мовы, Мінск 1982, с. 44 - 48.

3 В. П. Красней, У. М. Лазоўскі, ..., с. 25 - 26.

4 Там жа, с. 26 - 27.

5 Глядзі слоўнік паронімаў: С. М. Грабчыкаў, Цяжкія выпадкі ўжывання блізкіх па гучанню слоў, Мінск 1977, 328 с.




Дарагое Сэрцайка! Ты не так даўно пісала, што людзі на выездзе маняць часта і густа. Праўда гэта! Я нядаўна была ў санаторыі і перакаidalася, што наогул няма каму верыць. Сумная гэта з'ява; я ж заўсёды лічыла, што людзі, калі ўжо пра сябе расказваюць, дык гавораць праўду. А тут перакаidалася, што манюка на манюку сядзіць. Манілі ўсе: медсёстры, якія вельмі сачылі за маральнасцю адпачываючых, а самі сабе паціху забаўляліся з некаторымі на начных дзяжурствах; маніла мая суседка па пакою; а найбольш маніў дырэктар суседняга санаторыя, які выкарыстоўваў, казалі, кожную нагоду, каб „развесяліцца". Маёй суседцы нагаварыў кучу розных рэчаў наконт сваёй сям'і. Быццам ён такі бедны і пакрыўджаны лёсам чалавек. Сам, няшчаснік, выхоўвае дваіх дзяцей, бо жонка яго ў маладым узросце памерла. Праўда, магілы яе тут няма, бо яна француженка і цесць, яе бацька, значыцца, хацеў, каб пахавалі яе ў Францыі.

Мая суседка пачала з ім сустракацца. Хадзіла да яго ў службовы пакой,і там яны кахаліся. Яна, хаця сама маніла пра сябе, чамусьці верыла яму.

Мне яна казала, што яна паненка з дзіцём, што жыве адна з дачушкай,нікому непатрэбная, нешчаслівая, але чамусьці, калі ад'язджала, адрасу нікому не пакінула. Ясна, што баялася, каб хтосьці мужу не паведаміў пра яе гулянкі.

Ну, але, як я кажу, верыла яна свайму новаму кавалеру.

"Кавалеру" мая суседка, відаць, хутка прыелася, дык спрабаваў узяць на гэты ж нумар і мяне. Пачаў расказваць тое самае пра сябе, беручы мяне на літасць. У першы вечар я рагатала з гэтага. Пасля расказала пра яго залёты адной супрацоўніцы санаторыя. А яна мне і кажа, што жонка яго выехала на 2 тыдні ў Германію, бо яна там мае нейкіх знаёмых і крыху "ездзіць", гандлюе, значыцца. А ён на гэты час сапраўды апякуецца дзецьмі. На кожным турнусе ён мае новую нарачоную, бо жонка выязджае вельмі часта.

Пры наступнай нашай сустрэчы, калі дырэктар зноў пачаў расказваць нейкія небыліцы пра яго замежныя падарожжы, я не вытрымала і кажу: „ А як я была ў Монтэ-Карла, дык у гатэлі срачы былі мармуровыя!"

Цяпер пачаў рагатаць наш госць. Трымаючыся за жывот, сказаў: "Я думаў, што я найбольшы ў свеце манюка, а ты, аказваецца, умееш маніць яшчэ лепш!"
Ад таго часу не даваў мне спакою. Запрашаў да сябе, кідаўся на мяне з пацалункамі. Відаць, думаў, што нарэшце трапіў на сваю.

А я ж яму гаварыла праўду!

Маніць мне не было патрэбы і нікога ніколі ў жыцці я на ману не брала.Мне было смешна і сумна. Няўжо цяпер мана ў такой цане?

**Эмілька**

Эмілька! Такая мана мае два аспекты. Першы - гэта тое, што чалавек, які ў жыцці няшмат значыць, хоча дадаць сабе крыху якасцей, якія яму якраз не ўласцівы. Ён расце ў сваіх вачах, а да таго выкарыстоўвае гэту ману, каб вырасці ў вачах слухача. У Беластоку жыла каліс дзяўчына, якая наперамен "была" то пляменніцай Ярузельскага, то ўнучкай Голды Меер.

Шкада мне гэтых людзей. Іх мана мае вельмі кароткія ногі. Калі ўжо хтось у гэтых людзях расчаруецца, дык назаўсёды.

**Сэрцайка**



## Кісель з трускалак

На 30-40 дэкаў трускалак трэба ўзяць 2-3 лыжкі цукру, паўтары шклянкі вады, 5 дэкаў крухмалу.

Трускалкі перабраць, памыць, асушыць. Закіпяціць ваду з цукрам. Крухмал прасеяць, перамяшаць з некалькімі лыжкамі халоднай вады. Уліць у кіпецень, хутка мяшаючы, найлепш венічкам. Калі закіпіць, зняць з агню. Трускалкі зміксаваць або працерці праз сіта. Дадаць да загушчанай крухмалам вады, хутка перамяшаць венічкам. Гатовы кісель пераліць у маленькія салатніцы і зверху пасыпаць крыху цукрам. Накрыць, астудзіць. Падаваць з салодкай смятанкай.

## Мус з тускалак ці суніц

На 30 дэкаў трускалак ці суніц узяць 3 бялкі, 3-4 лыжкі цукру, 2 лыжачкі жэлаціну ў парашку, сок з аднаго лімона.

Жэлацін перамяшаць з халоднай вадой, няхай пастаіць так мінут 10-15. Падаграваць яго аж да кіпення. Пасля астудзіць. Ягады перабраць, памыць, асушыць. Некалькі прыгажэйшых ягад пакінуць для ўпрыгожання дэсерту. Рэшту працерці праз густое сіта або раздробніць у міксеры. Бялкі трымаць у халадзільніку, а пасля збіваць пену. Калі пена ўжо будзе цвёрдая, пакрысе дадаваць цукар. Бліскучую, пульхную пену перамяшаць з перацёрам і жэлацінам.Яшчэ хвіліну збіваць венічкам. Дадаць лімонны сок. Вылажыць у салатніцы, паставіць у халадзільнік. Кісель можна есці без нічога, а можна з салодкай смятанкай, якую падаем асобна ў збаночку..

**Гаспадыня**




Дарагі Астроне, так мне наснілася апошняй ноччу, што мала каму такое і сніцца. Ужо і раней calісьці мне сніўся папа рымскі, быццам бы я гаварыў з ім пра рэлігію... А цяпер мне прыснілася, што папа рымскі, калі быў з візітам у Ольштыне, пасля сустрэчы ходзіць па ваколіцы, а за ім ксяндзы і ўладыкі, а таксама і наш свяшчэннік з царквы. І вось я падумаў: каб хаця ім усім нічога дрэннага не сталася. Ідуць яны без ніякай аховы і могуць жа страляць у іх нейкія нягоднікі. І вось пачуў я раптам выстрал са стрэльбы. Ёсць забітыя ксяндзы, а мы з папам рымскім уцякаем кудысьці паміж блокамі. Там стаяў самаход. Мы сядаем у яго і едзем. Ну, цяпер ужо куля нас не дасягне, гаворыць папа рымскі. Мы едзем, а ўсюды шмат людзей. Усе яны прыветліва махаюць нам рукамі.

На гэтым мой сон скончыўся і я прачнуўся. Астроне, што можа абазначаць прабыванне разам з папаю рымскім у сне.

**А.Г.**

Шаноўны А.Г.! Наогул сустрэча ў сне з такой асобай абазначала б для цябе нейкую цікавую філасофскую гутарку з мудрым чалавекам. Але ці не занадта вялікія аспірацыі ты маеш? Не мог ты сесці каля духоўнага ніжэйшага сану?..

Думаю ўсё ж такі, што сон твой навеяны тымі падзеямі, якія адбываліся ў нашай краіне. Папа рымскі ў Ольштыне сапраўды сустракаўся з вернымі, але ахова была беззаганная! Па радыё і тэлебачанню транслявалі дакладна ўсе сустрэчы гэтага дастойніка. Можа, нават у той час, калі ты спаў, ішла трансляцыя, а табе ўжо зараз здалося, што ты едзеш з папам рымскім!..

**Астрон**



## Для самых маленькіх

Авяр'ян Дзеружынскі

## Добрае сэрца

Падзьмуў
Моцны вецер
Над рэчкай -
З берага
Упала гняздзечка
Ад плыні глыбокае
Блізка.
Няшчасце вялікае
Ў пліскі -
Загінуць
Яе дзіцяняткі -
Маленькія плісяняткі.

Па беразе крочыў
Хлапчынка.
Пачуў ён
Той самай хвілінкай,
Калі захацеў
Парыбачыць,
Што хтосьці
Ціліўкае-плача.
Тады аглянуўся
І ўбачыў - бяда,
Трох птушанятак
Затопіць вада,
Ляжалі яны
І не зналі,
Што поблізу
Плешчуцца хвалі,
А побач гняздо -
Іх калыска...
Тут лётала
Бедная пліска.
Да дзетак наблізіцца,
Сядзе,
Самота
Ў птушыным паглядзе,
У вочах
Такая трывога.

"Тут трэба
Мая дапамога", -
Падумаў хлапчук
І ў момант які
Прыладзіў гняздо
На грудку, ля ракі,
Затым
У птушыную хатку
Прынёс
Трох малых птушанятак.
І пліска
Заўважыла гэта.
Яна прыляцела
Да дзетак.

Хлапчук
Рыбку вудзіў
І клаў у вядзерца.
Ён меў
Вельмі добрае
Сэрца.





Пасябравалі. *Фота Э.Трыгубовіча*

**ЯЎГЕНІЯ ЯНІШЧЫЦ**

Чую тваю жаўрукову музыку
Ў скошаных травах мурожных.
Мова! Як сонца маё
беларускае,
Ты свецішся словам кожным.
Цябе і заворвалі, і закопвалі.
І ўсё ж нашы продкі праз гора
Данеслі да нас цябе,
родную, цёплую,
Жывую і непаўторную.
І калі ты мяне толькі паклікаеш,
Памру за цябе без енку.
Нашу я любоў да цябе
вялікую
Ў сэрцы сваім маленькім.

**МІКОЛА ТРАФІМЧУК**

Спакон вякоў
ад крывічаў далёкіх
брадзіла,
спела,
пенілася брагай
да самых
недасяжлівых аблокаў
напеўных слоў
нястоленая прага.
Зямлю
лапцямі
прадзеды мясілі,
гады лічылі
дбайныя зязюлі...
Мужнелі продкі,
гадавалі сілы,
ніякія каб злыдні
не кранулі,
ніякая каб нечысць
не скарыла
крывіцкай,
"руськай, богам данай"
мовы,
каб некалі пасля
Францыск Скарына
увекавечыў
дарагія словы;
каб бунтароў
будзілі цуда-гуслі,
пужалі
лютых ворагаў спрасоння...
На той жа мове
вольнай Беларусі
нашчадкі песняроў
спяваюць сёння.

## Чаму сабака з катом у згодзе не жывуць

Калісьці, за царом Гарохам, зямлі было вельмі мала, а паўсюды, як кінуць вокам, віравала вада. Людзей тады жыло няшмат, яшчэ менш усялякай жыўнасці. Таму не дзіва, што кожная свойская жывёліна ці звер мелі дакумент, у якім было пазначана сталае месца іхняга жыхарства. І ўсе пільнаваліся сваіх гнёздаў, нораў, гаспадарак. Аніхто без патрэбы не бадзяўся па свеце.

У адной сялянскай хаціне жылі кот і сабака. І так яны сябравалі, як кажуць, - вадой не разліеш. Разам елі, разам гулялі і палявалі, разам кляліся спаць. Кот на цёплым прыпечку, а сабака ў куточку каля дзвярэй. Доўга жылі яны бесклапотна, і ўрэшце адолела іх нуда.

- Што гэта за жыццё такое! - заскуголіў сабака. - Нават не набрэшашся ўволю...

- І на чужой печы не паляжыш... - пагадзіўся з ім кот. - Сядзі ды сядзі тут, як усё роўна прывязаны.

Наракалі яны так, наракалі і згаварыліся свет паглядзець. Пакінулі сваю цёплую абжытую хаціну і падаліся куды вочы глядзяць. Дзень ідуць, другі ідуць, а на трэці дзень перагарадзіла ім дарогу вялікая рака. Для сабакі - гэта не перашкода, ён плаваць умее. А кот памачыў лапы ды адскочыў ад вады, як ашпараны кіпенем.

- Каб я меў боты, - кажа, - дык перайшоў бы на той бок, а босаю нагою мне гэту перашкоду не адолець...

- Не бядуй! - адклікнуўся сабака. - Хіба мы не сябры? Сядай, браце, на мяне, і мы як бачыш апынемся на тым беразе. Толькі дакумент мой патрымай, бо наверсе табе зручней ад вады яго зберагчы.

Прымасціўся кот на спіне ў сабакі. І свае, і сабачыя дакументы ў зубы ўзяў, каб іх часам у раку не ўпусціць.

Нарэшце паплылі. А рака дужа шырокая аказалася. Плывуць гадзіну, плывуць другую, і ўсё моўчкі. Сумна стала сабаку.

- Як табе, браток, там сядзіцца? - пытаецца ён у ката. - Ці не падмывае цябе часам вада?

Кот і рады адазвацца, але баіцца разявіць рот, бо ў зубах дакументы трымае. Сабака ж не адстае, яму пагутарыць хочацца.

- Мабыць, ты, коце, задрамаў, на цёплым і сухім седзячы?

А кот усё роўна маўчыць, за свае ды сабачыя дакументы трасецца.

- Ага, гаў-гаў! - зазлаваў сабака, калі яны былі якраз насярэдзіне ракі. - Напэўна, табе самому паплаваць захацелася... Дык злазь з мяне!

- Браточак, любенькі, не губі! - заенчыў кот і давай хваліць сабаку за яго розум і вернасць у сяброўстве. А паперы тым часам - бух! - у ваду і паплылі. Убачыў кот, што здарылася бяда, але сабаку - ні гу-гу. Пабаяўся, каб самому не апынуцца ў вадзе...

Нарэшце дабраліся яны да берага. Спытаўся сабака пра свой дакумент, а кот - толькі лапамі развёў, маўляў, няма. Накінуўся сабака на няўдаліцу, зубы вышчарыў! Кот хацеў спачатку растлумачыць як усё здарылася, а потым пачаў бараніцца. Ад крыкаў і пагрозаў неўзабаве пачалася бойка. Сабака гатоў быў ката на кавалкі парваць, а той у сваю чаргу нарavіў нядаўняму сябруку вочы выдзерці.

З таго часу няма паміж катом і сабакам згоды, ганяюць яны адзін аднаго па свеце. І нездарма пра тых суседзяў, што часта сварацца, людзі кажуць: жывуць як кот з сабакам.

**Галіна Каржанеўская**

## Варатар

Гуляў Мікола
Каля школы.
Прыбег -
Запэцканы, вясёлы.
Аж пляснула
У далоні маці:
- Вы падзівіцеся
З дзіцяці!
А што ж з тваёю
Шапкай стала?
Ці не карова
Пажавала?
- Ды хлапчукі
Яе сарвалі
І ёю
У футбол гулялі.
- Ты ім, відаць,
Дапамагаў,
Таксама шапку
Падбіваў,
- Не падбіваў я,
Мама, што ты!
Я папрасіўся
На вароты.

### Вясёлая хвілінка для дамашняга задання

Прафесар Дэвід Кулак з універсітэта Манітобы /Канада/ вось ужо 27 гадоў спрабуе раскрыць тайну сноў.

Ён прыйшоў да высновы, што асноўнае прызначэнне сноў - дапамагаць чалавеку выходзіць са стрэсавых станаў. Думка чалавека ў сне працуе больш свабодна і раскавана, чым у час бадзёрасці.

- Не выпадкова, што іншы раз у сне прыходзіць рашэнне цяжкай задачы, якая з'яўляецца прычынай стрэсавай перагрузкі.

... Карацей кажучы, сустрэліся цяжкасці пры падрыхтоўцы дамашняга задання - кідай усё і ... кладзіся спаць!

### Вершы Віктара Шведа

ЛАЕ ДЗЕТАК СТАНОЖКА

Лае матка маленькіх станожак,
Што таптаді дзень цэлы мурог:
- Сёння я не пушчу вас у ложак,
Як не будзеце мець чыстых ног!
Не ўдалося сыночку малому
Сваёй мамы ізноў ашукаць:
Ён, вярнуўшыся сёння дадому,
Змог памыць толькі пар дваццаць пяць...

## Прыгоды Белавежыка

Спецыяльна для „Зоркі" прыдумаў і намаляваў студэнт III курса Беларускага дзяржаўнага тэатральнага-мастацкага інстытута ў Мінску Гардзей Шчаглоў.

Адрас рэдакцыі:15-950 Bialystok ul.Suraska 1,„Зорка".

# TV TELEWIZJA WARSZAWA

**PIĄTEK, 5.07.1991 r.**

PROGRAM I

8.00 "Dzień dobry" - poranny magazyn rozmaitości
9.00 Wiadomości poranne
9.10 Teleferie - muzyczna krzyżówka oraz film z serii "He-Man"
10.00 "Szkoła dla rodziców"
10.25 "Janosik" /1/ - serial prod. pol.
11.15 Aktualności telegazety
17.00 LTV - Lato w telewizji
17.15 Teleexpress
17.30 LTV - Lato w telewizji
18.00 "Alf" - serial prod. USA
18.25 LTV - Lato w telewizji
19.00 Od "Kapitału" do kapitału
19.15 Dobranoc
19.30 Wiadomości
20.05 "Miasteczko Twin Peaks" /10/ - serial prod. USA
21.00 Weekend w "Jedynce"
21.10 Zespół "Zapis" przedstawia...
21.50 Opole'91 - Turniej kabaretów /cz.1/
22.50 Wiadomości wieczorne
23.05 Siódemka w "Jedynce" - franc. satelitarny
23.50 "Alf" - serial prod. USA - wersja oryginalna

0.15 BBC - World Service

PROGRAM II

7.55 Powitanie
8.00 CNN - Headline News
8.10 J. angielski /2/
8.40 "W labiryncie" - serial TP
9.40 Mag. TV Śniadaniowej
10.00 CNN - Headline News
16.45 Powitanie
17.00 "Opowieść o mieście" - rep.
17.30 "Cudowne lata" /7/ - serial prod. USA
18.00 - 21.30 Programy regionalne
21.30 Panorama dnia
21.45 Sport
21.55 "Lekarze bez fartuchów" /7-ost./ - serial prod.ang.
22.45 Legendy filmu - Gene Hackman
23.40 CNN - Headline News

**SOBOTA, 6.07.1991**

PROGRAM I

7.00 "W sobotę rano" - magazyn informacyjno-gospodarczy
7.45 "Tydzień na działce"
8.15 "Piłkarska kadra czeka"
8.35 "Ziarno" - program Red.Katolickiej dla dzieci i rodziców
9.00 Wiadomości poranne
9.10 "Walt Disney przedstawia"
10.25 "Na zdrowie"
10.45 "Z pieśnią nad Wilię" - wojskowy pr.dok.
11.10 "Z Polski rodem" - magazyn polonijny
11.40 "Wędrówki dalekie i bliskie": Jest nadzieja" - film dok.radz.
12.20 Koncert roku - Laureaci festiwali i konkursów muzycznych
13.40 Koncert galowy Dziecięcego Festiwalu Piosenki i Tańca - Konin'91
14.30 "Siódemka" w "Jedynce" - fran.pr.sat.
15.30 Niemcy 1990. "Bez muru" /1/ "Nieznany kraj" - serial dok.
16.30 "Opoka" - pr. red. katolickiej
16.45 "Flesz"
17.15 Teleexpress
17.35 Koszykówka zawodowa NBA
18.30 "W kinie i na kasecie"
18.55 "Z kamerą wśród zwierząt"
19.15 Dobranoc
19.30 Wiadomości
20.05 "Co do grosza" /2/ - film fab. prod.ang.
21.40 Sportowa sobota
21.55 Opole'91 - Turniej kabaretów /cz.2/
22.55 Wiadomości wieczorne
23.15 Program muzyczny
23.30 "Oko za oko" - film krym. prod. USA

PROGRAM II

7.25 Kaliber'91 - wojskowy pr.public.
7.55 Powitanie
8.00 CNN - Headline News
8.10 "Kapitan Planeta i Planetarianie" - serial anim.prod.USA
8.35 Mag. TV Śniadaniowej
9.15 "Mądrej głowie..." - pr.rozr. W.Manna i K.Materny
10.00 CNN - Headline News
10.15 Mag. TV Śniadaniowej
10.40 "Sekretny dziennik Adriana Mole'a lat 13 i 3/4"/5/- s.ang.
11.05 "Tacy sami" - program w jęz.migowym
11.25 "Dookoła świata": U Inków
11.55 "Konkurs 5 milionów"
12.25 Kabaret Frisco
13.25 VI Gdańskie Spotkania Gitarowe - "Praski Kwartet Gitarowy"
13.55 "Pora słońca" /2/ - serial prod.ang.
14.25 "Ze wszystkich stron" "Judaica kaliskie" - reportaż
14.55 Program dnia
15.00 Zezem - Jan Tadeusz Stanisławski
15.30 "Santa Barbara" - serial USA
17.00 "Studio Tajemnic"
17.30 Wzrockowa lista przebojów Marka Niedźwieckiego
18.00 Program lokalny
18.30 Wielka gra - teleturniej
19.30 Galeria 38 milionów
20.00 Karol Szymanowski w twórczości i życiu
21.00 "Hale i Pace" - ang.pr.rozrywkowy
21.30 Panorama dnia
21.45 "Słowo na niedzielę"
21.50 "Linia mety" - film fab.prod.ang.
23.25 CNN - Headline News

**NIEDZIELA, 7.07.1991**

PROGRAM I

7.00 "Witamy o siódmej"
7.30 "Kraj za miastem"
7.55 "Po gospodarsku"
8.10 "Od niedzieli do niedzieli"
8.55 Program dnia
9.00 Kino Teleferii: "Włóczęgi północy" - film przyg.prod.amer.-kanad.
10.10 Żeglarska formuła I
10.30 "Przygody roślin" /4/"Warunki skrajnie trudne"-film dok.franc.
10.55 "Notowania, czyli co się opłaca rolnikowi"
11.20 Wojskowy Korpus Górniczy -po raz drugi-wojsk.pr.publ.
11.45 Koncert Życzeń
12.15 Circom Regionale prezentuje
12.45 Magazyn "Morze"
13.05 Koncert galowy Dziecięcego Festiwalu Piosenki i Tańca Konin'91
14.00 Koszykówka zawodowa NBA
15.00 Z archiwum Teatru TV: Edmont Rostand-Cyrano de Bergerac
16.50 "Telewizjer"
17.15 Teleexpress
17.30 "Chwila wspomnień"
18.00 Film dokumentalny
19.00 Wieczorynka
19.30 Wiadomości
20.05 "Miliarderka" /1/ - serial prod. franc.
21.35 "7 dni - świat"
22.05 Sportowa niedziela
22.25 Wiadomości wieczorne
22.40 "Rewizja nadzwyczajna"

PROGRAM II

7.50 Przegląd tygodnia /dla niesłyszących/
8.20 Film dla niesłyszących: "Miliarderka" /1/ - serial prod.franc.
9.50 Program dnia
10.00 CNN - Headline News
10.10 "Jutro Poniedziałek"
10.30 Program lokalny
11.00 "Wspólnota w kulturze"
11.40 "Getto" - relacja z premiery w Teatrze Nowym w Poznaniu
12.00 Mistrzowie współczesnego kina - Wojciech Marczewski
12.30 "Express Dimanche"
12.45 Gość "Dwójki"
13.00 Polska Kronika Filmowa
13.10 100 pytań do ...
13.50 "Przyłbice i kaptury" /2/ - film fab. TP
14.50 Formuła I
15.05 Jerzego Woldorffa połowy na rzece wspomnień
15.45 Chopin w rzeźbach Renesa
16.05 "Wędrówki ludów nad Pacyfikiem" /4/"Płonące strzały"-serial dok.prod.austral.
17.00 Program dnia
17.05 Studio Sport. Formuła I
17.30 "Bliżej świata"
18.30 "Ciśnienie" - recital Jolanty Kaczmarek
19.00 "Wydarzenie tygodnia"
19.30 "Tygiel" - zagraniczny magazyn kulturalny
20.00 Barbara Hendricks w Warszawie - recital wokalny w Filharmonii Narodowej
21.00 "J-Hozna bunt" - recital zespołu
21.30 Panorama dnia
21.45 "Teresa Raquin /2/ - film fab.prod.ang.
22.45 "Róbmy swoje" - pr. W. Młynarskiego
23.40 CNN - Headline News

**PONIEDZIAŁEK, 8.07.1991**

PROGRAM I

16.55 Aktualności telegazety
17.00 Lato w telewizji
17.15 Teleexpress
17.30 Lato w telewizji
18.00 "Alf"/20/ - serial prod. USA
18.25 Lato w telewizji
19.15 Dobranoc
19.30 Wiadomości
20.05 TTV "Szalbierz" G. Spiro - spektakl na bis
21.55 "Ach panie, panowie" - frag.pamiętnika J.Nowickiego
22.30 Wiadomości wieczorne
22.45 "ALF" /20/ - wersja oryginalna
23.10 BBC - World Service

PROGRAM II

16.45 Powitanie
17.00 "Czas akademicki"
17.30 "Cudowne lata"
18.00 Programy lokalne
18.30 Przegląd kronik filmowych
19.00 "Ojczyzna -polszczyzna": Etymologiczne pułapki
19.15 Zapraszamy do "Dwójki"
19.30 Śpiewa Janusz Borowicz
20.00 Coctail personalny - pr. publ.
20.30 "Reduta" - program studyjno-filmowy
21.30 Panorama dnia
21.45 Sport
21.55 "Tan Si Tong /2-ost./ - film fab. prod. chińskiej
23.05 "Rozmowy o cierpieniu"
23.20 CNN - Headline News

**WTOREK, 09.07.1991**

PROGRAM I

8.00 "Dzień dobry"
9.00 Wiadomości poranne
9.10 Teleferie najmłodszych ze smokiem
9.35 "Przygody misia Ruxpina" - serial anim. ang.
10.00 "To się może przydać" - magazyn dla pań
10.25 Matyas Sandor /2/ - dram.kostium.prod.węg-franc.
11.20 Telegazeta
11.30-17.00 Przerwa
17.00 Lato w TV
17.15 Teleexpress
17.30 Lato w TV
18.00 "Alf" /21/ - serial USA
18.25 Lato w TV
19.15 Dobranoc
19.30 Wiadomości
20.05 "Mefisto walc" - film fab. prod. pol.
21.05 "Telemuzak" - Magazyn muzyki rozrywkowej
21.35 "Poszukiwany Zdzisław Najmrodzki" - reportaż
22.40 Wiadomości wieczorne
22.55 "Alf"/21/ - wersja oryginalna
23.20 BBC - World Service

PROGRAM II

7.55 Powitanie
8.00 CNN - Headline News
8.10 J. angielski /3/
8.40 "Santa Barbara" - serial USA
9.25 Mag. TV śniadaniowej
10.00 CNN - Headline News
10.15 "Ameryka w moich oczach" /1/ - rep.
16.45 Powitanie
17.00 Archiwum Neptuna - Powrót na Falklandy
17.30 "Cudowne lata" /9/ - serial prod.USA
18.00 Program lokalny
18.30 Modlitwa wieczorna
18.50 "Seans filmowy"
19.30 "Z ziemi polskiej"-"Nad La Plata i pod Andami" - film dok.
20.00 "Non stop kolor"
21.00 Wywiady I. Dziedzic
21.20 Magazyn przechodnia
21.30 Panorama dnia
21.45 Sport
21.55 "Przygody Sherlocka Holmesa" -film ang.
23.15 CNN - Headline News

**ŚRODA, 10.07.1991**

PROGRAM I

8.00 "Dzień dobry"
9.00 Wiadomości poranne
9.10 Teleferie: "Rekordy Neptuna"
9.35 Kino Teleferii: "Safari" - serial czech.
10.00 "Przyjemne z pożytecznym"
10.25 "Dynastia" /91/ - serial prod. USA
11.15 Aktualności telegazety
11.20 - 17.00 Przerwa
17.00 Lato w TV
17.15 Teleexpress
17.30 Lato w TV
18.00 "Alf" /22/ - serial prod. USA
18.25 Lato w TV
18.45 Program public.
19.15 Dobranoc
19.30 Wiadomości
20.05 "Dynastia"/91/ - serial prod. USA
20.55 Zespół "Zapis" przedstawia program z cyklu "Petenci"
21.25 "Kabaret starszych panów" "Piosenka jest dobra na wszystko"
22.25 Wiadomości wieczorne
22.40 "Alf"/22/ - serial USA
23.05 BBC - World Service

PROGRAM II

7.55 Powitanie
8.00 CNN - Headline News
8.10 Język angielski /4/
8.40 "W labiryncie" - serial TP
9.30 Mag. TV śniadaniowej
10.00 CNN - Headline News
10.15 "Ameryka w moich oczach"/2/
16.45 Powitanie
17.00 Magazyn ekologiczny
17.30 "Cudowne lata" /10/ - serial prod.USA
18.00 Program lokalny
18.30 "M.A.S.H." - serial USA
19.00 "KADR" - teleturniej filmowy
19.30 Muzyka Chopina z Żelazowej Woli - gra Kazimierz Gierżod
20.00 Powrót Czyngis-Chana - rep. o Mongolii
20.30 Wielka szansa Małego Teatru
21.00 "Camerata 2" przedstawia - Paderewski
21.30 Panorama dnia
21.45 Przegląd Sejmowy
22.00 "Dziewczyna z Mazur" /2/ - serial TP
22.55 Sport

23.05 "Telewizja nocą"

**CZWARTEK, 11.07.1991**

PROGRAM I

8.00 "Dzień dobry"
9.00 Wiadomości poranne
9.10 "Janka"/5 i 6/ - serial pol.-niem.
10.10 "Po sześćdziesiątce"
10.30 VAN DER VALK /1/. "Dzieci doktora Hoffmana - serial prod.ang.
11.15 - Telegazeta
11.25 - 17.00 Przerwa
17.00 Lato w TV
17.15 Teleexpress
17.30 Lato w TV
18.00 "Alf" /23/ - serial prod. USA
18.25 Lato w TV
18.50 Magazyn Katolicki
19.15 Dobranoc
19.30 Wiadomości
20.05 VAN DER VALK /1/ serial ang. krymin. "Dzieci dr Hoffmana"
21.50 Gość Andrzeja Zarębskiego
22.05 Pegaz
22.35 "Jakim prawem"
23.15 Wiadomości wieczorne
23.30 "Alf"/23/ - wersja orygin. - serial USA
23.55 BBC - World Service

PROGRAM II

7.55 Powitanie
8.00 CNN - Headline News
8.10 J. angielski /5/
8.40 "Santa Barbara" - serial USA
9.25 Teleklinika doktora A. Kaszpirowskiego
9.45 Mag. TV śniadaniowej
10.00 CNN - Headline News
10.15 "Ameryka w moich oczach" /3/-rep.
16.45 Powitanie
17.00 Teleklinika doktora A. Kaszpirowskiego
17.30 "Cudowne lata" /11/ - serial prod.USA
18.00 Program lokalny
18.30 "Pod wspólnym dachem" /2/ - serial franc.
19.00 Magazyn "102"
19.30 " Z ziemi polskiej" - Awanse panów Balcerów- film dokum.
20.00 Sport - o sportach motorowych
21.00 Express reporterów
21.30 Panorama dnia
21.45 Sport
21.55 Studio Teatralne "Dwójki": J.Gierałtowski "Wakacje kata"
23.05 CNN - Headline News

Алесь Чобат

## На роднай вуліцы

На вуліцы маёй які ўжо год
то раскапаюць брук, то на рамонце крама,
у Івановых знікла ноччу брама,
а мясакамбінат пусціў смурод -
ніякай якасці, а толькі гоняць вал!
І Сідараў паехаў на Урал...

Тут сеў Пятроў - і ляснула брыгада.
А бабе што! Знайшла другога гада,
купляе золата, зубамі зіхацець,
а так вішчыць, што можна звяр'яцець,
чым і займаюцца тутэйшыя бічы -
а што ты зробіш?! Слухай і маўчы...

На вуліцы ні сябра, ні сабакі,
пустыя крамы... і адны палякі!

Спакойны жулік Рабіновіч Лёва
зняпацку на старэйшага Пятрова
наскочыў... і пайшоў на бюлецень -
такія вось здарэнні кожны дзень,
і гінуць людзі проста задарма,
і прыкладу для моладзі няма.

У цёткі Мані меншая дачка
абрэзала спадніцу да нічога,
калі стары Іван з настрою злога
білет партыйны кінуў да бачка,
крычаў,
буяніў
і пратэставаў
ды ўсё чапляўся да Дзіка Валеры:
- Калі ты зробіш мітынг, да халеры?! -
і мацюкамі ў белы свет даваў.

Патруль прыехаў - бараніць народ.
Скандал пачаўся. Гледачы паўсталі...
А выйшла зноў усё наадварот!
Не - каб Івана здаць. Дык закрычалі
пра цэны і пра тое, як раней,
пра мафію і розных ненажэрцаў,
заналашылі вутак і свіней -
і сплюнуўшы, сержант зляснуў дзверwы.

Адзін Пацук Валодзя паглядзеў
крыху інакш на такую справу,
сказаў, што рана, што Іван здурэў,
што самы час ... ісці пісаць заяву -
прымаюць лёгка і за пяць мінут.
Куды ні глянеш, дык суцэльны цуд...



Мал. Адама Сяменчыка

## Робіш ты каму на злосць?

Не пазнаць цябе, Міхась,
Дзе ж ты так замурзаўся,
Дзе ж знайшоў зімою гразь?
Са свіннёй мо дужаўся?
На плячах парваў кажух
І калошу портак,
Сіні нос ажно апух,
Вочы, як у чорта.
Да цябе не падыйсці -
Цягне перагарам.
Дзе ж гарэлкі змог знайсці,
З кім хлябаў напару?
Дзень ізноў ты прагуляў
З чаркаю праклятай.
Што сям'і, дзяржаве даў,
Акрамя утраты?
Да чаго дап'ешся ты,
Маладым мужчына,
Стаў чаму такі пусты,
Па якой прычыне?
"Жыгулі", кватэра ёсць,
Дзеці падрастаюць,
Робіш ты каму на злосць? -
Мы цябе пытаем.

Віталь Барадзін


Мал. В. Дубовіка („Вожык").

## Дурацкае пісьмо

Два псіхіятры сустракаюцца на сімпозіуме:

- Які найбольш цяжкі выпадак здарыўся ў вашай практыцы? - цікавіцца адзін у другога.

- Быў у мяне пацыент, які жыў у свеце ілюзій, - адказвае яго калега. - Ён верыў, што страшэнна багаты дзядзька ў Паўднёвай Амерыцы збіраецца пакінуць яму сваю маёмасць. Увесь час чакаў ён пісьма ад міфічнага адваката. Нікуды ён не выходзіў і нічога не рабіў.

- І які вынік лячэння?

- Я восем гадоў змагаўся за яго душэўнае здароўе і ўрэшце вылечыў яго. А потым прыйшло гэтае дурацкае пісьмо...

**************************************************

Анекдоты ад чытачоў

## З украінскага гумару

Сядзяць дзве мыпы і разбіраюць атамную бомбу. Падыходзіць да іх трэцяя:

- Што вы робіце? Яна ўзарвацца не можа?

- Нічога, - адказваюць, - у нас яшчэ адна ёсць.

***

Сустрэліся два сябры:

- Эх, - уздыхае адзін, - зноў хочацца ў Парыж!

- А ты што, быў ужо там?

- Ды не. Але ўжо раз хацеў.

***

Кіеўская гаспадыня пытаецца ў адэскай:

- Кажуць, у вас, у Адэсе, з прадуктамі кепска?

- Не, з прадуктамі ў Адэсе добра. Вось без прадуктаў дрэнна.

***

Мужык палівае газон салляркай.

- Што вы робіце, кветкі завянуць! - крычыць яму сусед.

- Няхай, - адказвае насуплены гаспадар, - затое зброя не паржавее.

***

Скардзіцца кума куме:

- Каб жа яму і костачкі выламала, і ножанькі выкруціла, і вочанькі павылазілі, як ён дзесьці швэндаецца, а я ўсю ноч на цыферблат гляджу...

- Э, кумачка, вы хоць на цыферблат глядзіце, а я ж на каляндар...

***

Дзядзька бярэ сігарэты і, смакуючы кожнае слова і цяжка вымаўляючы склады па-расейску, чытае ўголас: "Минз - драв пред - уперж - дает, ку - ре - ние опас - но для вашего здо - ро -вья".

- Вось праклятыя, - кажа ён, здзіўлена гледзячы ўдалячынь, - на рыдлёўках гэтага не пішуць.

Пераклаў В.Бабей



Мал. Ю. Самарына („Вожык").

Вакол літаратуры і літаратараў

## НЕ ХВАЛЮЙЦЕСЯ

На секцыі драматургіі ішло абмеркаванне п'есы маладога аўтара. Сталыя драматургі не тое, што крытыкавалі п'есу, а не пакінулі ад яе нават мокрага месца.

У канцы абмеркавання далі слова маладому аўтару. Ён выйшаў на "лобнае месца", паглядзеў у залу і пачаў старонка за старонкай рваць сваю п'есу і кідаць у кут.

І тыя, хто толькі што крытыкаваў п'есу, паўсхопліваліся са сваіх месцаў, пачалі крычаць:

- Што вы робіце? П'еса ж ёсць, толькі трэба сёе-тое паправіць!

Малады аўтар зноў паглядзеў у залу і супакоіў паважаных, сталых драматургаў:

- Не хвалюйцеся, у мяне дома яшчэ два экземпляры гэтай самай п'есы ляжаць...

Запісаў Барыс Сачанка („Вожык").



"Niwa", ul. Suraska 1, 15-950 Białystok
skr. pocz. 149, tel. 232-41, 210-33.

Wydawca: Białoruskie Towarzystwo Społeczno-Kulturalne 15-062 Białystok, ul. Warszawska 11.

Druk: Białostockie Zakłady Graficzne w Białymstoku.

Białoruski Tygodnik Społeczno-Kulturalny sponsorowany przez Ministerstwo Kultury i Sztuki.

I. Prenumerata pocztowa

1. Termin wpłat na prenumeratę pocztową na IV kwartał 1991 r. upływa 20 sierpnia 1991 r.
2. Cena prenumeraty na IV kwartał wynosi 13.000 zł + 6.500 zł za doręczenie.
3. Cena prenumeraty z wysyłką za granicę jest większa o 100 % i przyjmowana jest tylko na okresy kwartalne. Wpłaty przyjmuje Centrala Kolportażu Prasy i Wydawnictw, Warszawa, ul. Towarowa 28. Nr konta: PBK XIII Oddział Warszawa 370044-1195-139-11.

II. Prenumerata własna - prowadzona przez wydawcę. Cena 1 egz. wraz z wysyłką wynosi 2.000 zł.

Cena prenumeraty miesięcznej:
- lipiec - 8.000 zł.
- sierpien - 8.000 zł.

Cena prenumeraty kwartalnej wynosi 26.000 zł.

Wpłaty przyjmuje Zarząd Główny BTSK, Białystok, ul. Warszawska 11, Nr konta NBP O/O Białystok, 5021-3203-132.

Орган Галоўнага праўлення Беларускага грамадска-культурнага таварыства.Рэдагуе калектыў: Валянціна Жэпка /карэктар/, Віталій Луба /галоўны рэдактар/, Міраслава Лукша, Аляксандр Максімюк, Ян Максімюк, Яўгенія Палоцкая /кіраўнік канцылярыі/, Уладзіслаў Петрук /мастак/, Марыя Федарук /машыністка/, Ада Чачуга /адказны сакратар/.